КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 13 (334) ◂ 5 красавіка ◂ 2013 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



▸ З НАГОДЫ

# СЫСЦІ НЕЛЬГА ЗАСТАЦЦА

*Сяргей ПУЛЬША*

**Нарэшце мы даведаліся пра рэальную і стабільную папулярнасць Аляксандра Лукашэнкі сярод беларускага грамадства, пра той электарат, які будзе галасаваць за яго, нягледзячы ні на што.**




Згодна з апошнімі дадзенымі зарэгістраванага ў Літве Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, сталы электарат Лукашэнкі складае каля 33%. Малавата для «ўсенароднай падтрымкі».

Электаральнаму рэйтынгу кіраўніка дзяржавы мусіць пазайздросціць беларуская інфляцыя. Вось ужо амаль год рэйтынг практычна стабільны, і стаіць, як кол, вагаючыся толькі ў межах памылкі выбаркі ў 3%. Зараз ён складае 33,4%.

Дынаміка за год вельмі паказальная. У красавіку 2012 года, пасля крызіснага 2011-га, Аляксандр Лукашэнка карыстаўся безумоўнай падтрымкай 34,5% насельніцтва. У чэрвені 2012-га рэйтынг знізіўся да 29,7%, у верасні-кастрычніку — вырас да 31,6%, у снежні — 31,5%, зараз, як казалася, — 33,4%.

Яднае гэтыя лічбы адно: стабільнасць. За выключэннем «абвалу» чэрвеня, лічбы не перавышаюць памылку выбаркі. Настолькі, што рост рэйтынгу ў верасні-кастрычніку незалежны сацыёлаг Алег Манаеў катэгарычна адмовіўся прызнаваць гэты плюс у 2,9% «ростам рэйтынгу Лукашэнкі». «Гэта нельга назваць ростам, таму што лічба не перавышае памылкі выбаркі ў 3%. Мы можам казаць толькі пра тое, што рэйтынг Лукашэнкі не ўпаў», — казаў ён.

З аднаго боку, такая стабільнасць для беларускага грамадства — гэта вельмі добра. Як кажуць, добрая ўлада тая, якой не чутно і не бачна. У еўрапейскіх краінах, дзе людзі жывуць добра, людзі ўзгадваюць пра ўладу толькі ў перыяды сацыяльных зрухаў, крызісаў альбо ў перыяд выбараў. А з іншага боку, такі рэйтынг паказвае, што сам Аляксандр Лукашэнка большасці нашых грамадзян глыбока «фіялетавы». Пра яго стараюцца не згадваць, бо надакучыў.

Вельмі яскрава гэта бачна на тым, як народ рэагуе на ініцыятывы беларускага правадыра. У прыватнасці, прызначэнне Пятра Пракаповіча, які, на думку шмат каго, з'яўляецца вінаватым у фінансавым крызісе 2011 года, намеснікам старшыні ўрада станоўча ацанілі толькі 12,4% рэспандэнтаў, адмоўна — 28,8%, а 43,2% да гэтага рашэння паставіліся проста абыякава.

Гэта, дарэчы, паказчык даверу і да «архітэктара дэвальвацыі» Пятра Пракаповіча.

Прадказальным жа чынам раскалолася грамадская думка і адносна прапановы Лукашэнкі па скарачэнні дзяржаўнага апарату, а за кошт скарачэння павялічыць заробак тым, хто застанецца на дзяржаўнай службе. У эфектыўнасць такога рашэння паверылі 30% апытаных і не паверылі 56,2%.

Дарэчы, толькі практычна тая ж «стабільная» лічба апытаных высоўвае прапанову, каб Аляксандр Рыгоравіч зноў паспрабаваў прэзідэнцкага шчасця ў 2015 годзе. Гэта бачна з адказу на пытанне: «Як, на Ваш погляд, павінен паступіць прэзідэнт А. Лукашэнка?». На думку 36,5% рэспандэнтаў, ён павінен удзельнічаць у выбарах 2015 года, 26,1% лічаць, што ён не павінен удзельнічаць у выбарах 2015 года, 21,4% — што ён павінен як мага хутчэй сысці і не перашкаджаць абраць новага прэзідэнта, а 6,1% — што ён павінен як мага хутчэй сысці і прызначыць пераемніка.

То бок, больш за палову дарослага насельніцтва краіны (53,6%) лічаць, што Аляксандр Рыгоравіч засядзеўся на працоўным месцы, і час яго б ужо нарэшце пакінуць любым спосабам.

Гэткім чынам выснова: каля 33% лічаць, што Аляксандр Лукашэнка нам патрэбны да зарэзу, каля 55% лічаць, што ён можа сысці ўжо зараз, бо ад яго рашэнняў нікому не халодна і не горача.

Раней Лукашэнка заяўляў, што гатовы сысці, «калі народ папросіць». Можна лічыць, што народ яго ўжо папрасіў.

Але ж на каго ён нас пакіне, гаротных? Як сведчыць даследаванне НІСЭПД, рэйтынг даверу да апазіцыйных палітычных партый знізіўся з 20% у снежні да 13,1% зараз — на сем пунктаў. З апазіцыйных лідараў рэйтынг вырас толькі ў кіраўніка кампаніі «Гавары праўду!» Уладзіміра Някляева, да 5,1% (у снежні ён склаў 4,6%). У Андрэя Саннікава рэйтынг знізіўся да 2,8% (у снежні — 4,8%). Электаральны рэйтынг Аляксандра Мілінкевіча ў сакавіку склаў 2,8%.

Адразу ўзгадваецца іншая тактыка, а менавіта — тая ж «Гаварыпраўдоўская» кампанія пад назвай «Не хто замест Лукашэнкі, а што замест Лукашэнкі». Сёння 74,8% лічаць, што Беларусь мае патрэбу ў пераменах, супрацьлеглага меркавання прытрымліваюцца толькі 16,2%.

Ажыццяўляць гэтыя перамены, вядома ж, будуць самі беларусы. І тут НІСЭПД таксама бачыць праблему. Такой праблемай, на думку даследчыкаў, ёсць надзвычай высокі ўзровень недаверу людзей адзін да аднаго. На пытанне: «Ці можна давяраць большасці людзей, або ў адносінах з людзьмі трэба быць вельмі асцярожным?» 70% адказалі, што трэба быць вельмі асцярожным у адносінах з людзьмі, і толькі 23,1% — што большасці людзей можна давяраць. «Якая ж палітычная мабілізацыя магчымая без відавочнай альтэрнатывы і сацыяльнай кансалідацыі?» — задаецца пытаннем НІСЭПД.

На гэтае пытанне можна адказаць простым інтэрнэтаўскім «гы-гы». Беларусы могуць мець колькі заўгодна скептычнае стаўленне адзін да аднаго, але ў крытычнай сітуацыі яны проста яднаюцца, не зважаючы на свае комплексы і праблемы. Гэтае яднанне мы бачылі пасля Плошчы–2010, калі безліч незнаёмых людзей гатавалі перадачы і развозілі іх затрыманым па розных ізалятарах. Гэта мы бачылі і на прыкладзе нядоўняга «Хаёра», калі ўлады не здолелі арганізаваць рух транспарту ў экстрэмальных умовах. А тысячы беларусаў проста развозілі людзей на сваіх джыпах па дамах «за так». Будзе экстрым — будзе і рэакцыя.

Дарэчы, на пытанне «Калі прапануюць, ці пагодзіцеся вы прыняць удзел у якасці кандыдата на мясцовых выбарах у 2014 годзе?» каля 11% рэспандэнтаў адказалі станоўча (756 000 выбаршчыкаў, калі лічыць ад усёй колькасці). І хто пасля гэтага скажа, што беларусы не гатовыя ўзяць на сябе адказнасць за краіну?

СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

# ХТО ЗАБІЎ СЫНА?

**Маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва хоча ведаць падрабязнасці пра апошнія хвіліны сына, якога лічыць неправасудна пакараным смерцю. Яна спрабуе высветліць, якая структура выканала смяротны прысуд, вынесены Вярхоўным судом у дачыненні да яе сына.**

«Спачатку я напісала старшыні Камітэту дзяржбяспекі, бо Улада да апошняга трымалі ў СІЗА КДБ. Атрымала ліст за подпісам самога старшыні, Валерыя Вакульчыка, дзе напісана, што гэтае пытанне — паза кампетэнцыяй КДБ. І што звяртацца трэба ў Вярхоўны суд, бо менавіта туды, паводле артыкула 175 Крымінальна-выканаўчага кодэксу, прыходзіць паведамленне, што прысуд выкананы. Але намеснік старшыні Вярхоўнага суда Валеры Калінковіч таксама адказаў, што гэта па-за іх кампетэнцыяй. І прапанаваў звярнуцца ў Дэпартамент выканання пакаранняў. На запыт я атрымала адказ зноў толькі са спасылкай на артыкул 175. У частцы 5 там згадваецца «ўстанова, якая выконвае смяротны прысуд», — што яна мусіць паведаміць пра выкананне суду, які вынес такі вырак, а адтуль мусяць напісаць сваякам. Паведамленне з Вярхоўнага суда мы атрымалі, але дабіцца, што за «ўстанова» займаецца расстрэламі асуджаных, пакуль не ўдалося. Усё засакрэчана! Усе ведаюць, які парадак зацвярджэння смяротных прысудаў, а вось хто іх выконвае і дзе іх выконваюць, не ведае ніхто. Гэта чарговая таямніца, зацверджаная беларускім заканадаўствам», — распавяла Любоў Кавалёва.

Маці ўжо звярталася ў розныя інстанцыі, у тым ліку і да кіраўніка Беларусі, з просьбай аддаць ёй цела расстралянага сына. Яна прасіла хаця б указаць месца, дзе ён пахаваны. Але адусюль атрымлівала толькі адмоўныя адказы. Нічога не патлумачылі Любові Кавалёвай і пра знікненне ў СІЗА КДБ запісаў сына, якія ён вёў падчас суду, — гэтыя запісы проста зніклі, нібыта ў іх утрымліваліся нейкія сакрэтныя звесткі. Хаця па законе маёмасць пакаранага смерцю мусіць перадавацца сваякам…

Спадарыня Кавалёва збіраецца працягваць высвятленне акалічнасцяў выканання смяротнага прысуду і далей: адмовы паведаміць, якая структура выконвае смяротныя прысуды, яна хоча абскардзіць у вышэйшых інстанцыях.

Яна выступае і за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі ўвогуле: з улікам верагоднасці памылак следства, гэтая мера з'яўляецца неапраўданай, калі потым высвятляецца, што расстралялі невінаватых. Любоў Кавалёва лічыць, што смяротнае пакаранне недапушчальнае ў цывілізаванай краіне, бо яно змушае на пакуты і асуджаных, і іх сваякоў, для якіх вечнай таямніцай застаюцца акалічнасці пакарання.

**Паводле spring96.org**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# СТАТКЕВІЧ АТРЫМАЎ «НОВЫ ЧАС»

**Аляксей КАРОЛЬ**

**Пасля арышту Мікалая Статкевіча мы падпісалі яго на НЧ і метадычна дасылалі кожны нумар (як і ўсім іншым палітвязням). І гэтак жа метадычна адміністрацыя магілёўскай турмы №4 вяртала нам канверты, з пазнакай «не положено».**

Маўляў, газеты няма ў падпісным каталогу «Белпошты».

Рэдакцыя мусіла звярнуцца ў Дэпартамент выканання пакаранняў МУС, Упраўленне Дэпартаменту выканання пакаранняў па Магілёўскай вобласці, Пракуратуру Магілёўскай вобласці з заявай, у якой патлумачыла, што ні Крымінальна-выканаўчы кодэкс, ні Правілы ўнутранага распарадку не ўтрымліваюць абмежаванні па прыкмеце ўваходжання таго ці іншага СМІ ў каталог «Белпошты», і запатрабавала забяспечыць правы грамадзяніна Статкевіча на атрыманне карэспандэнцыі ў поўным аб'ёме.

З Дэпартаменту выканання пакаранняў МУС нам адказалі (на беларускай мове), што «парушэння дзеючага заканадаўства супрацоўнікамі турмы не ўстаноўлена», а вось сам «Статкевіч М. В. па пытанні афармлення падпіскі на газету "Новы час" да адміністрацыі турмы не звяртаўся».

Тое, што падпісвала рэдакцыя і дасылала квітанцыі ў турму разам з газетай, аказваецца, пад увагу не бралася, бо «згодна з крымінальна-выканаўчым заканадаўствам, асуджаным дазваляецца без абмежавання падпісвацца на газеты і часопісы за кошт уласных сродкаў, звыш усталяваных для выдаткоўвання на прадукты харчавання і прадметы першай неабходнасці». Гэта важная цытата, неабходная для адстойвання законных правоў вязняў на атрыманне карэспандэнцыі.

Мікалай Статкевіч напісаў афіцыйную заяву ў рэдакцыю (зарэгістраваўшы яе ў турэмнай адміністрацыі), каб яму накіравалі банкаўскія рэквізіты газеты, па якіх ён можа аплаціць падпіску.

Што мы і зрабілі, дадаўшы завераныя копіі ўсіх рэгістрацыйных дакументаў на газету. І вось прыйшло доўгачаканае пісьмо ад Міколы Віктаравіча: «…Урэшце атрымаў «Новы час» — нумар ад 07.03». Але днямі пазваніла жонка Статкевіча Марына Адамовіч і распавяла, што муж зноў не атрымаў нашу газету. Гульня працягваецца?

ПАЛІТВЯЗНІ

# ЛІСТ АД ЯЎГЕНА ВАСЬКОВІЧА

**Сталі вядомыя некаторыя новыя падрабязнасці знаходжання ў зняволенні сябра «Беларускай хрысціянскай дэмакратыі», палітвязня Яўгена Васьковіча.**

Пра іх ён піша ў лісце да сваёй бабулі Тамары Уладзіміраўны, які яна атрымала 29 сакавіка.

У лісце палітвязень паведамляе, што да яго пачалі даходзіць лісты не толькі ад блізкіх сваякоў. У прыватнасці, ён атрымаў шмат лістоў падтрымкі і віншаванняў да Дня Волі, за што выказвае ўсім шчырую падзяку. Таксама да яго дайшла перадача ад сваякоў, лёс якой доўгі час не быў вядомы.

Яўген таксама патлумачыў прычыну сваёй адмовы ад адваката. Паводле яго словаў, ніякі адвакат яму дапамагчы не зможа, а марнаваць грошы на тое, каб даведацца пра ягоны стан, які ён можа апісаць у сваіх лістах, ён лічыць бессэнсоўным. Пры гэтым Васьковіч адзначыў, што свядома ўзяў свой крыж і будзе несці яго да канца. Калі нехта захоча таксама ўзяць свой крыж у змаганні за вольную Беларусь, гэта будзе вельмі добра, лічыць ён.

Зараз палітвязень чытае мемуары Георгія Жукава. Атрымаўшы ліст ад рэдактара «Бабруйскага кур'ера», мае намер дасылаць туды свае артыкулы. Настрой у яго пазітыўны. Ён шчыра віншуе ўсіх каталікоў са святам Уваскрэсення Хрыста і радуецца абранню новага Папы Рымскага, які, на яго думку, здолее ўзняць Касцёл на новыя вышыні.

«Тое, што да Яўгена пачалі даходзіць лісты, — гэта пазітыўны знак. Ён натхняе нас да яшчэ большай салідарнасці і дае нам падставы пісаць яму яшчэ больш лістоў. «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» ў сваю чаргу будзе і надалей будзе падтрымліваць палітвязняў і прыкладаць усе намаганні для іх хутчэйшага вызвалення», — адзначыў адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі.

**Паводле прэсавай службы БХД**

АДУКАЦЫЯ

# ЦІСК НА ВЫКЛАДЧЫКАЎ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Былы выкладчык тэорыі права з Гродзенскага дзяржуніверсітэта распавёў «Еўрарадыё» пра прычыны звальнення.**

«Яшчэ ўвосень са мной размаўлялі, каб я напісаў заяву аб сыходзе. Пазней мой заробак упаў да двух з нечым мільёнаў. Ён скараціўся амаль у два разы. Любы грамадзянін Беларусі павінен мець магчымасць свабодна выказваць свае меркаванні, нават калі яны разыходзяцца з іншымі. А ў навуковым асяроддзі гэта проста абавязак навукоўца — выказваць новыя, іншыя, адрозныя меркаванні. Я не згодны з ціскам, які аказваецца на выкладчыкаў. На мяне, на іншых», — патлумачыў Ігар Кузьміновіч.

Паводле выкладчыка, кіраўніцтву ўніверсітэта не спадабалася, што ён напісаў і выставіў у блогу дзве казкі: як з'явіўся бел-чырвона-белы сцяг і казку пра «Пагоню». «Калі па шчырасці — гэта дзіцячыя казкі. Ды і ўсе іншыя матэрыялы, якія мне ставіліся ў віну, не нясуць ніякай палітычнай падаплёкі. Напрыклад, каго можна лічыць беларускім пісьменнікам? Я выказаў свае меркаванне», — падкрэсліў Кузьміновіч.

Спачатку з Гродзенскага ўніверсітэта звольнілі гісторыка Андрэя Чарнякевіча, цяпер сыходзіць Ігар Кузьміновіч. Ён лічыць, што кіраўніцтва ўніверсітэта тут ні пры чым. «І я, і Чарнякевіч прапрацавалі амаль 20 гадоў. Мы не хавалі сваіх поглядаў. Гэта не было так, што мы расказвалі адно студэнтам, а потым у інтэрнэце пісалі нешта іншае. Я і выкладаў па-беларуску. Усё пачалося вельмі раптоўна. У пачатку вясны 2012 года ў мяне былі выдатныя адносіны з адміністрацыяй. І тая ж адміністрацыя выклікала мяне напрыканцы вясны. А ўвосень мяне папрасілі звольніцца. Ціск пачаўся ў час выбарчай кампаніі. Не думаю, што ўніверсітэт сам бы адважыўся на такія крокі», — лічыць выкладчык.

Па яго словах, мы хутка пачуем пра шмат выпадкаў, калі цісनуць на выкладчыкаў: «Я ведаю ўжо зараз некалькі такіх выпадкаў. Дарэчы, гэта не звязана толькі з выхадам кнігі «Гродназнаўства». Усё гэта значна шырэй».

Нагадаем, першым з Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта звольнілі гісторыка Андрэя Чарнякевіча — аднаго з аўтараў падручніка «Гродназнаўства», які быў выдадзены ў Польшчы. Пазней кіраўнік Гродзенскага аблвыканкаму Сямён Шапіра прызнаў, што «прымаў такое рашэнне асабіста». Потым быў прызначаны новы рэктар — Андрэй Кароль. А 1 красавіка стала вядома, што Рада Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта не абрала доктара гістарычных навук Вячаслава Шведа на пасаду прафесара па конкурсе.

**Паводле «Еўрапейскага радыё»**

СУД

# ВЫНЯСЕННЕ ПРЫСУДУ ЗНОЎ ПЕРАНЕСЕНА

**2 красавіка ў судзе Бялыніцкага раёна суддзя Аксана Загорская працягнула разгляд справы аб адміністрацыйным правапарушэнні ў адносінах да Валерыя Вусіка, якое быццам бы ён здзейсніў падчас наведвання са здымачнай групай незалежных тэлежурналістаў фермы мясцовай гаспадаркі СВК «Лебедзянка» 28 лютага 2013 года.**

Перад пачаткам пасяджэння супрацоўнік Бялыніцкага РАУС правеў гутарку і склаў пратаколы апытання двух незалежных журналістаў, якія былі сведкамі падзей, што адбываліся ў Лебедзянцы.

Падчас судовага пасяджэння быў прагледжаны відэазапіс матэрыялу з тэлеканала «Белсат» аб наведванні незалежнымі журналістамі фермы ў СВК «Лебедзянка», якія прадставіў у суд нібыта пацярпелы Міхаіл Бялоў. Сведка з боку пацярпелага Сафараў у суд не з'явіўся. Як патлумачыў Міхаіл Бялоў, сведка працуе ў адміністрацыі СВК «Лебедзянка», з'ехаў у Расію па нейкіх асабістых справах і прыедзе толькі пасля 26 красавіка.

Суддзя Аксана Загорская прыняла рашэнне працягнуць разгляд справы і паведаміла, што прысуд будзе вынесены 8 красавіка ў 11-00.

Праваабаронца Барыс Бухель крыху здзіўлены, чаму суддзя не вынесла сваё рашэнне адразу ж пасля разгляду справы: «Паказанні сведкаў цалкам зняпраўджваюць абвінавачанні Валерыя Вусіка ў адміністрацыйным пратаколе. Ніякай пагрозы фізічнай расправы не было, як і іншых незаконных дзеянняў з боку Валерыя Вусіка. Участковы інспектар склаў пратакол з парушэннямі, не апытаў адразу сведкаў, якія выказваліся аб невінаватасці Валерыя Вусіка. Прадстаўлены Міхаілам Бяловым матэрыял з сайта тэлеканала «Белсат», зноў жа, толькі зняпраўдзіў усе абвінавачванні. На мой погляд, суддзя магла б адразу з усяго гэтага зрабіць высновы і вынесці свой прысуд. Замест гэтага вынясенне рашэння зноў перанесенае, што мяне вельмі здзіўляе».

Згодна з пратаколам аб адміністрацыйным правапарушэнні, складзеным участковым інспектарам міліцыі Сяргеем Карыткіным, Валерый Вусік 28 лютага, калі разам са здымачнай групай незалежных тэлежурналістаў наведваў жывёлагадоўчую ферму СВК «Лебедзянка», у адносінах пляменніка старшыні СВК «Лебедзянка» трактарыста Міхаіла Бялова «*выражался нецензурной бранью, на предложения успокоиться не реагировал*», а таксама «*размахивал руками*» і ажыццяўляў у ягоны адрас «*угрозы физической расправы*».

**Паводле spring96.org**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# КАЛІ АДМЕНЯЦЬ ГРОШЫ?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Або ў беларусаў усё ж скончыліся грошы, або яны канчаткова страцілі давер да дзяржавы. А можа, і тое, і другое. Прынамсі, як сведчаць апошнія эканамічныя дадзеныя, беларусы перасталі «здаваць валюту» дзяржаве. А магчыма, яны папросту збіраюцца перажыць новы крызіс з уласнай фінансавай «падушкай бяспекі».**




Як сведчыць апытанне Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Літва), толькі менш за 20% беларусаў такія наіўныя, што дагэтуль давяраюць нацыянальнай валюце і вераць, што чарговай дэвальвацыі ў бліжэйшыя месяцы не адбудзецца. Як адзначаюць сацыёлагі, ацэньваючы небяспеку новай дэвальвацыі рубля ў бліжэйшыя месяцы, 32,1% адказалі, што «гэта рэальная пагроза», 42,7% — «гэта магчыма, але малаверагодна», і толькі 19,4% вераць, што «гэтага не адбудзецца».

Таму давер да беларускага рубля выказалі толькі крыху больш тых, хто не чакае дэвальвацыі, — 19,7%, Найбольш давяраюць людзі ў захоўванні грошай амерыканскаму долару — 53,6%. Значна скараціўся давер да еўра — яму давяраюць толькі 15,3% апытаных. Што і не дзіва: у Еўропе дэмакратыя, там усе кажуць пра праблемы Кіпра, Грэцыі, Італіі ды Іспаніі. А нашы дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі дзейнічаюць, як той камуніст у спрэчцы пра дэмакратыю з амерыканцам з анекдоту часоў Брэжнева. Кшталту, амерыканец кажа: «Я магу выйсці перад Белым домам і крычаць: «Далоў Рэйгана!» і мне за гэта нічога не будзе». А камуніст яму адказвае: «Я таксама магу выйсці на Красную плошчу і крычаць: «Далоў Рэйгана!» І мне таксама нічога не будзе»… Дык нашы СМІ актыўна абмяркоўваюць Кіпрскі крызіс і цвердзяць пра стабільнасць нацыянальнай валюты. З «апусканнем» еўра ў іх атрымалася, а вось з «падняццем» рубля — не вельмі.

Амаль дзве трациіны (64,8%) апытаных лічаць, што беларуская эканоміка знаходзіцца ў крызісе, у той час як не згодныя з такім сцвярджэннем менш за чвэрць (24,6%). Таму заканамерна, што людзі пабойваюцца дзяржавы.

Нечаканасцю гэта стала для банкаўскіх працоўных. Раней попыт на валютныя аблігацыі Мінфіна Беларусі, якія прапанавалі даходнасць у 7% гадавых, з боку насельніцтва выклікаў дзіўны і нечаканы ажыятаж. Першыя два выпускі аблігацый на агульную суму 50 мільёнаў долараў, якія Мінфін размяшчаў з 20 снежня 2012 года, насельніцтва скупіла фактычна за месяц. Так, па стане на 28 студзеня 2013 года, было прададзена 90,6% ад аб'ёму эмісіі на 45,3 мільёна долараў, а ў лютым гэтыя выпускі былі цалкам размешчаныя (тэрмін звароту — 1 год, стаўка — 7%, наміналы 200 і 1000 долараў).

Натхнёныя поспехам, арганізатары аблігацый выпусцілі трэці «транш» — разлічаны ўжо на два гады. Але «пракалоліся». Як паведамляе Мінфін, на 1 красавіка 2013 года насельніцтва купіла дзяржаўныя валютныя аблігацыі трэцяга выпуску толькі на суму 36,25 мільёна долараў, што складае 72,51% ад аб'ёму эмісіі. Прычым у лютым было прададзена 52,5% аблігацый гэтага выпуску. То бок, у сакавіку попыт на валютныя паперы Мінфіна ўпаў амаль у тры разы.

Таму трэба думаць, дзе ўзяць грошы. І таму прэзідэнт нарэшце заклапаціўся тым, каб вярнуць тое, што вінныя нам. Не ўсё ж нам адным сплочваць грошы па крэдытах...

Лукашэнка выклікаў да сябе пасла Беларусі ва Украіне Валянціна Вялічку і запытаўся ў яго: як там Украіна са сваімі пазыкамі? «У нас ёсць шэраг нявырашаных пытанняў, у тым ліку па мяжы, старыя даўгі Украіны перад Беларуссю. Хай яны невялікія, але, тым не менш... Як тут у нас складваецца сітуацыя?» — спытаў Лукашэнка.

Гаворка ідзе аб ратыфікацыі дагавора аб мяжы паміж дзвюма краінамі, які Беларусь адмаўляецца падпісваць з-за старой (з першай паловы 90-х гадоў) запазычанасці ўкраінскіх прадпрыемстваў на суму каля 120 мільёнаў долараў (па розных ацэнках, 80–150 мільёнаў долараў). Акрамя таго, сітуацыя ўскладняецца новымі абавязкамі — запазычанасць збанкрутаванай украінскай авіякампаніі «Аэрасвіт» перад беларускімі навігацыйнымі службамі і «Белавія». А яшчэ рознагалоссі ў пытанні здабычы карысных выкапняў на мяжы, пытанні з мытамі на беларускія нафтапрадукты і гэтак далей. Усе гэтыя пытанні Лукашэнка мае намер паставіць непасрэдна перад украінскім прэзідэнтам Віктарам Януковічам.

Але пакуль адны людзі думаюць, дзе ўзяць грошы, іншыя людзі думаюць, а навошта грошы ўвогуле патрэбныя? І задумваюцца, як бы нам зажыць пры камунізме, увогуле адмяніўшы грошы. Сапраўды, шмат у іх праблемаў: спачатку друкуй, потым вымай, за інфляцыяй глядзі, старыя купюры на новыя мяняй… Ну куды ж гэта ўпісваецца, у якія рамкі?

Таму ўзнікла ідэя: увогуле адмяніць наяўныя грошы. Гэта не жарт, а адна з адміністрацыйных мер плана ўрада і Нацбанку Беларусі па павелічэнні працэнту безнаяўных разлікаў плацяжоў у розніцы РБ да 50% да 1 студзеня 2016 года. У гэтым плане прадугледжваецца, што беларускія ўлады заканадаўча забароняць усім суб'ектам гаспадарання, незалежна ад формы ўласнасці, выдачу заплаты (прэмій, бонусаў, дапамогі) наяўнымі грашыма.

План прадугледжвае шэраг мерапрыемстваў, у ліку якіх павелічэнне колькасці аб'ектаў, якія падлягаюць аснашчэнню плацежнымі тэрміналамі за кошт пашырэння іх пераліку і зніжэння нормаў парогавых значэнняў выручкі для абавязковай устаноўкі плацежных тэрміналаў. Таксама Нацбанк мае намер зрабіць больш жорсткімі патрабаванні да прадстаўлення паслуг інкасацыі і па перавозцы наяўных грошай.

Акрамя таго, будзе ўведзеная лімітавая дазволеная велічыня плацяжу наяўнымі, звыш якой разлік будзе магчымы толькі з выкарыстаннем аплатнай карты.

Такім чынам, беларускі «нал» неўзабаве, у недалёкай будучыні, можаператварыцца ў дэфіцыт. Яго будуць выдаваць толькі пры абмене валюты іншаземцам. А могуць і ўвогуле стварыць нейкую «абменную карту» і выдаваць яе турыстам з іншых краін замест грошай. Кшталту карткі метро: запраграмаваў на пэўную суму, эквівалентную колькасці здадзенай валюты, і ўсё.

Гэтае радыкальнае рашэнне, дарэчы, вельмі павысіць каштоўнасць наяўнай беларускай валюты. Калекцыянеры з усяго свету будуць ганяцца за папяровым беларускім рублём як за вялікай рэдкасцю. А ўжо колькі яны гатовыя будуць адваліць валюты за такія банкноты, толькі Госпаду вядома. І вось гэта здыме ўсе пытанні: і валютнага запасу, і даверу да беларускага рубля.

**Давер да беларускага рубля выказалі толькі крыху больш тых, хто не чакае дэвальвацыі, — 19,7%, Найбольш давяраюць людзі ў захоўванні грошай амерыканскаму долару — 53,6%**

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ВОЛЬГА ПАНАРЫНА



Беларуская прафесійная велагоншчыца, чэмпіёнка свету 2011 года, заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь Вольга Панарына парэкамендавала ўсім таленавітым спартсменам з'ехаць з краіны.

У інтэрв'ю «Спартыўным навінам» Вольга Панарына распавяла аб шакавальнай сітуацыі, якая склалася ў беларускім велаbelспорце. «Узяць, дапусцім, справаздачную канферэнцыю Беларускай федэрацыі веласпорту (БФВС) мінулай вясной, калі яе былы прэзідэнт Аляксандр Мураўёў абвясціў, што на развіццё гэтага віду спорту за апошнія 5 гадоў было выдаткавана 2 мільёны еўра. Трэнеры папросту ачмурэлі, бо ніхто — ні ў дзіцячым спорце, ні ў элітным — ніякай падтрымкі не атрымліваў!» — заявіла Панарына.

Вольга Панарына адзначыла, што ў Беларусі ў спартсменаў няма будучыні, і параіла ехаць туды, дзе яны змогуць рэалізаваць свае прафесійныя магчымасці. «Самі разумееце, што вырвацца з усяго гэтага «балота» — велізарны поспех. Ды і іншым спартсменам хацелася б пажадаць удачы і магчымасці вырвацца, калі яны любяць сваю справу і хочуць стаць прафесіяналамі. У Беларусі ёсць добрыя трэнеры ў тэмпавых відах. Але з такім стаўленнем кіраўніцтва таленавітыя трэнеры і спартсмены толькі загубяць сваю кар'еру. Ёсць жа ўжо цяжкі прыклад чэмпіёна свету Аляксандра Лісоўскага, які своечасова не з'ехаў і стаў тут нікому не патрэбным. Гэта вельмі важна — зрабіць правільныя высновы і працаваць у тым месцы, дзе гэта цэніцца», — заявіла Вольга Панарына.

### ВІКТАР ВЯГЕРА




Генерал-маёр Віктар Вягера вызвалены ад пасады першага намесніка старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі па контрразведвальнай дзейнасці і звольнены з ваеннай службы ў запас па ўзросту з правам нашэння ваеннай формы адзення і знакаў адрознення. Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта, адпаведны ўказ Аляксандр Лукашэнка падпісаў 1 красавіка.

На пасаду першага намесніка старшыні КДБ Беларусі па контрразведвальнай дзейнасці Вягера быў прызначаны 1 кастрычніка 2007 года. Да гэтага ён быў намеснікам старшыні КДБ — начальнікам галоўнага ўпраўлення контрразведвальнай дзейнасці.

Паводле інфармацыі інтэрнэт-крыніц, Вягера курыраваў шэраг гучных спраў, якія для ўлады сталі глабальным правалам. Гэта, у прыватнасці, справа аб выбуху ў мінскім метрапалітэне 11 красавіка 2011 года, якая да гэтага часу выклікае пытанні аб ступені вінаватасці яго фігурантаў Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва, а таксама справа лідара праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага, прызнанага міжнароднай супольнасцю «вязнем сумлення» і палітвязнем.

### УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ



Лідар кампаніі «Гавары праўду!», паэт Уладзімір Някляеў стаў адзіным лідарам беларускай апазіцыі, рэйтынг якога, паводле зарэгістраванага ў Літве Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) у выніку праведзенага ў сакавіку 2013 года нацыянальнага апытання, узрос. Зараз яго рэйтынг складае 5,1%, а ў снежні мінулага года быў 4,6%.

НІСЭПД былі апытаныя 1 513 чалавек, памылка рэпрэзентатыўнасці не перавышае 3%. Такім чынам, Някляеў яшчэ з'яўляецца і адзіным апазіцыянерам, рэйтынг якога выйшаў за «памылку рэпрэзентатыўнасці». На другім і трэцім месцы знаходзяцца Андрэй Саннікаў, рэйтынг якога зараз складае 2,8% (у снежні 4,8%), і Аляксандр Мілінкевіч, — таксама 2,8%.

Дарэчы, Някляеў стаў і самым сціплым апазіцыйным палітыкам. «Рух «За свабоду» і Партыя БНФ, якія атрымалі ў гэтым апытанні найбольшыя рэйтынгі, не пасаромеліся гэтым пахваліцца на сваіх сайтах. Някляеў жа ад каментараў устрымаўся. Нават навіну пра тое, што ў лідара «Гавары праўду!» найвялікшы сярод апазіцыйных палітыкаў рэйтынг, сайт кампаніі «Гавары праўду!» перадрукаваў з іншай крыніцы.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЧАС ПРЫВАТЫЗАВАЦЬ ЭЛІТУ

Сяргей НІКАЛЮК

**Гістарычны ківач, які завіс у мяккім аўтарытарызме, пачаў зваротны рух.**




Мяне часта папракаюць за маё захапленне Расіяй, і справядліва. У якасці «апраўдання» прывяду дзве прычыны. Па-першае, у беларускім (як і расійскім) грамадстве працэсы мадэрнізацыі не завершаныя. Таму заходнія гуманітарныя навукі, арыентаваныя на апісанне грамадстваў мадэрну, могуць мала чым дапамагчы ў разуменні мінулага, сапраўднага і будучага Беларусі. У Расіі ж за апошнія 20 гадоў паўсталі навуковыя школы, якія фармуюць самастойныя (незаходнія) мову і апарат апісання расійскага грамадства.

Па-другое, залежнасць беларускай эканомікі ад Расіі на сённяшні дзень такая вялікая, што сама магчымасць самастойнага развіцця сацыяльна-палітычных працэсаў у Беларусі апынулася пад пытаннем. Узгадаем 2011-ы год. Пераход эканамічнага крызісу ў крызіс сацыяльны, а затым і ў палітычны, успрымаўся шмат кім (і справядліва) як падзея, якую нельга прадухіліць. Але Расія ў чарговы раз падставіла плячо. Трэба ўсведамляць, што 3–4 мільярды долараў дадатковых датацый для нашага адзінага саюзніка — гэта не грошы. Такім чынам, канчатковае вычарпанне ўнутранага рэсурсу дамарослай «мадэлі развіцця» не прывядзе да яе палітычнай смерці.

З вялікай ступенню верагоднасці можна сцвярджаць, што працэсы трансфармацыі родных аўтарытарных рэжымаў будуць адбывацца паралельна. Пры гэтым змены ў Беларусі стануць адказам на змены ў Расіі. Узгадаем перабудову: у Маскве гукнулі — у Мінску адгукнулася.

## Пуцін і труба

Галоўная асаблівасць грамадстваў, якія не завяршылі мадэрнізацыю, — раскол. Ён размяжоўвае тых, хто асвоіў каштоўнасці мадэрну (хай сабе і ў першым набліжэнні), і тых, хто зрабіць гэтага не здолеў. Раскол, нібы хістальны контур у электратэхніцы, здольны падтрымліваць зваротна-паступальныя рухі гістарычнага ківача.

Перабудова — адна з крайніх кропак на яго тысячагадовым шляху. Гэтак жа, як і яе папярэдніца (Лютаўская рэвалюцыя), перабудова давяла эканоміку да поўнага калапсу, спарадзіўшы тым самым запыт на аднаўленне ўладнай «вертыкалі» на чале з моцным лідарам. Пуцінскія «нулявыя» — гэта аналаг Ваеннага камунізму, за які, калі чытачы яшчэ памятаюць школьны курс гісторыі, надышоў НЭП.

Ваенны камунізм вычарпаў свой рэсурс за тры гады (1918–1921). Але хуткасць сацыяльна-палітычных працэсаў з тых часоў істотна ўзрасла. Усё правільна. Як правільна і тое, што падпалкоўнік КДБ Пуцін, адпрацаваўшы на галерах два прэзідэнцкіх тэрміны, пасля чатырохгадовага перапынку зноў прыкуў сябе ланцугом да вясла.

Тлумачыцца ўсё проста. У распараджэнні Пуціна знаходзіцца труба. Лёс усіх яго папярэднікаў (аж да першых Рурыкавічаў) залежаў ад здольнасці дзяржавы канцэнтраваць матэрыяльныя рэсурсы. Строга кажучы, халява пачалася пры Брэжневе. Напачатку 1970-х гадоў яна паставіла крыж на рэформах Касыгіна і тым самым аддаліла перабудову. Але труба з'яўляецца трубой толькі пры ўмове запаўнення дарагой нафтай. У гэтым сэнсе Гарбачову не пашанцавала. З расійскай трубы крапае і беларусам, што і тлумачыць даўгалецце дамарослага аналагу ваеннага камунізму.

Звернемся да статыстыкі. За 2000–2011 гады ВУП на душу насельніцтва ў Расіі павялічыўся ў 3,1 разу, але выключна за кошт росту цэнаў на сыравіну. Пасля хаосу 1990-х гадоў, калі рэальныя прыбыткі насельніцтва зменшыліся больш чым у два разы, штогадовы двухзначны рост прыбыткаў у «нулявыя» дазваляў уладзе не задумвацца пра якасць сацыяльнай палітыкі, тым больш, што насельніцтва асаблівых патрабаванняў і не высоўвала.

З 1992 па 2009 год суадносіны прыбыткаў 10 працэнтаў самых багатых да прыбыткаў 10 працэнтаў самых бедных павялічыліся з 8 да 16,7. Расія стала краінай мільярдэраў, што ніяк не адбілася на сацыяльнай стабільнасці. «Сутнасць сістэмы ўяўляла сабой «аўтарытарны рэжым са згоды падданых» — людзі засяроджвалі ўвагу на асабістых справах, а ўлады забяспечвалі ім хуткае падвышэнне ўзроўню жыцця, якое грунтавалася на рэзкім росце цэнаў на нафту. У такой атмасферы прыватнае ўвесь час брала верх над грамадскім» (даклад Маскоўскага цэнтра Карнэгі «Абуджэнне Расіі»).

## Зваротны рух ківача

Любая схема спрашчае рэальнасць. Што да выкладзенай вышэй, дык яна максімальна спрошчаная. Таму паспрабую схему дапоўніць.

Для падтрымання сацыяльна-палітычнага статус-кво Пуціну патрэбныя не проста высокія цэны на нафту, а цэны, якія ўвесь час растуць. А вось з гэтым якраз і паўсталі праблемы. У дзяржавы, арганізаванай па прынцыпе сярэднявечнай вотчыны, няма свайго ўнутранага (не нафтавага) генератара рэсурсаў. Але не варта ўсё зводзіць да высыхання плыні нафтадолараў. Па меры росту прыбыткаў, структура запытаў насельніцтва пачала змяняцца, а Крэмль працягваў дзейнічаць у звыклым алгарытме — г. зн. заліваў праблемы грашыма.

І здарылася тое, што здарылася. Гістарычны ківач, які завіс у вобласці мяккага аўтарытарызму, пачаў зваротны рух.

**Для падтрымання сацыяльна-палітычнага статус-кво Пуціну патрэбныя не проста высокія цэны на нафту, а цэны, якія ўвесь час растуць**

Няўзброеным вокам гэты рух пакуль заўважыць цяжка. Аднак, напрыклад, на сайце Фонду грамадскай думкі кожную сераду абнаўляюцца палітычныя індыкатары. Да канца студзеня 2011 года індэкс даверу да Пуціна выпісваў паралельную лінію на ўзроўні ў 65 адзінак. Аднак са студзеня індэкс пачаў плаўна змяншацца. Прэзідэнцкія выбары змянілі негатыўную тэндэнцыю на пазітыўную, але ненадоўга. 11 сакавіка 2012 года, дасягнуўшы максімуму (які апынуўся ніжэй за ўзровень стабільнасці на тры адзінкі), індэкс працягнуў зніжэнне. Апошняе значэнне — 51,4.

Нагадаю фрагмент папярэдняй «Азбукі паліталогіі»: «Усе сацыяльныя сістэмы з'яўляюцца ўнутрана напружанымі. Таму змены могуць ажыццяўляцца двума спосабамі: за кошт развіцця сіл, якія спрыяюць, або праз паслабленне сіл, якія стрымліваюць пажаданыя змены». Варта было толькі ўладнаму тандэму паўнамёкамі спарадзіць сярод апазіцыйна настроеных грамадзян надзею на раскол у асяроддзі палітычнай эліты, як на акцыі пратэсту пачалі збірацца не купкі гарадскіх вар'ятаў, а сотні тысяч раззлаваных гараджан.

Тут самы час прыгадаць словы сацыёлага Лявонція Бызова: «Мы назіраем завяршэнне чарговага вітку гістарычнага цыклу, вычарпанасць тых грамадскіх парадыгмаў, якія шмат у чым пазітыўна ўспрымаліся грамадствам у «эпоху нулявых». Як стала відавочна менавіта ў гэтыя гады, само па сабе ўмацаванне дзяржаўнага кампаненту праз пабудову "адміністрацыйнай вертыкалі", інтэнсіўнае фармаванне «кіроўнага класа» ў асобе дзяржаўнай бюракратыі, не змаглі забяспечыць развіццю эканамічнай і палітычнай сістэмы краіны новыя імпульсы».

Фактаў, якія сведчаць пра пачатак зваротнага руху ківача, хапіла б на дзясятак «Азбук паліталогіі». Не засталіся яны незаўважанымі і праз прарэз для вясла дзяржаўнай галеры. У Крамлі нямала прафесійных аналітыкаў. Падчас прэзідэнцкай кампаніі, якую парушылі акцыі пратэсту, было прынята рашэнне адмовіцца ад спробаў прыцягнуць на свой бок раззлаваных гараджан, што азначала перафарматаванне агульнанацыянальнага лідара ў лідара кансерватыўнай «большасці».

## Новая павестка дня

Ва ўмовах зніжэння даверу да Пуціна, было прынята рашэнне выкарыстоўваць нематэрыяльныя спосабы захавання палітычнага статус-кво. Кампанія па барацьбе з карупцыяй — адзін з іх. Крэмль, у прыватнасці, непакоіць той факт, што ўсё большая колькасць расіян лічаць «Адзіную Расію», як трапна сказаў блогер Аляксей Навальны, «партыяй жулікаў і злодзеяў» (з такой характарыстыкай у лютым 2013 года, паводле «Левада-Цэнтра», пагадзіліся 40% рэспандэнтаў).

Аднак у рэальную барацьбу з карупцыяй верыцца з цяжкасцю. У сучаснай Расіі карупцыя — інструмент кіравання, які прыйшоў на змену сталінскаму гвалту. Паколькі апорай «уладнай вертыкалі» служыць асноватворны прынцып — васальная адданасць цэнтру ў абмен на магчымасць неабмежавана ўзбагачацца любымі спосабамі, — узровень карупцыі ў Расіі стаў зашкальваць. Адсюль рост масавай незадаволенасці, які пагражае пазбавіць уладу легітымнасці ў вачах не толькі прасунутых сацыяльных груп, але і насельніцтва ў цэлым.

Ківач набірае хуткасць і падштурхоўвае Крэмль да фармавання новай павесткі дня. Карэкцыя правіл гульні ў асяроддзі эліты за кошт гучных антыкарупцыйных спраў — адзін з яе элементаў. Па меркаванні палітолага Глеба Паўлоўскага, Пуцін «асцярожна змяняе правілы гульні, але паколькі ў яго пакуль няма альтэрнатыўных правіл, ён проста пашырае зону небяспекі для свайго асяроддзя, галоўным чынам для вышэйшага істэблішменту».

Пуцінскія імправізацыі трымаюць эліты ў стане нявызначанасці — такім чынам, у стане большай залежнасці ад імправізатара. Ранейшая сістэма давала чыноўнікам права на прадпрымальніцкую дзейнасць. Але ў Думу ўнесены законапраект, які прадугледжвае для «асобы, што абавязаная прымаць службовыя рашэнні, якія закранаюць пытанні суверэнітэту і нацыянальнай бяспекі», забарону на валоданне замежнымі рахункамі і актывамі ў замежных кампаніях. Гэтыя правы застануцца толькі ў тых, хто гатовы заплаціць за іх дадатковай лаяльнасцю Пуціну.

Як гэта па-руску! Заслона ставіцца не на шляху незаконнага ўзбагачэння чыноўнікаў, а на магчымасці іх інтэграцыі ў заходнюю сістэму. Крыніца ў Адміністрацыі прэзідэнта растлумачыла агенцтву «Reuters», што заканадаўчая ініцыятыва Пуціна накіраваная на «фармаванне нацыянальна арыентаванай эліты». Гаворка, такім чынам, ідзе пра яе нацыяналізацыю. Час пакажа, наколькі гэта дапаможа затрымаць рух ківача.

Яшчэ адзін базавы элемент новай павесткі дня — «Агульнарасійскі народны фронт» (АНФ), першая канферэнцыя якога адбылася ў канцы сакавіка. Удзел у яе працы прыняў Пуцін.

У сувязі з пераарыентацыяй на «большасць» — а яе ядро традыцыйна складае апору камуністаў, — АФН давядзецца таптацца на адной электаральнай пляцоўцы з КПРФ. «Партыя жулікаў і злодзеяў» у гэтай справе хутчэй стане перашкодай, чым памагатым. Да прэзідэнцкіх выбараў яшчэ пяць гадоў, але ў Крамлі імкнуцца падрыхтаваць санкі ўлетку…

ЮБІЛЕЙ

# АФІЦЭР КАНСТЫТУЦЫІ

Сяргей ПУЛЬША

**Ёсць людзі, жыццё якіх падобнае да раманаў. Для кагосьці гэта любоўная гісторыя, для кагосьці — «вытворчы раман». Але хто б мог падумаць, што ў былога суддзі Канстытуцыйнага суда жыццё падобнае да палітычнага дэтэктыву! А здавалася б — ціхі доктар юрыдычных навук, прафесар, якому 7 красавіка спаўняецца 55 гадоў.**

## Self-made man

Пра такіх, як Міхаіл Пастухоў кажуць «self-made man», — «чалавек, які зрабіў сябе сам».

Міхаіл Пастухоў нарадзіўся 7 красавіка 1958 года ў маленькім раённым гарадку Сураж Бранскай вобласці. Бацькі ў Міхаіла Іванавіча былі простымі людзьмі: маці ўсё жыццё прапрацавала кардоннай фабрыцы «Пралетар». Бацька быў аграномам у мясцовым хмельпункце.

Як узгадвае Пастухоў, дзяцінства яго было «басаногае», але школу ён скончыў з залатым медалём. Пасля школы вырашыў ехаць у Мінск. Юрфак абраў па той прычыне, што ў якасці профільнага іспыту трэба было здаваць гісторыю, якая яму падабалася. Конкурс быў 16 чалавек на месца. Але Пастухоў уступны экзамен здаў на «выдатна» і адразу ж быў залічаны ў студэнты.

Па заканчэнні юрфака Міхаіл паступіў у аспірантуру, а ў 25 гадоў ужо абараніў кандыдацкую дысертацыю. З гэтага і пачынаюцца «дэтэктывы Пастухова».

## У кіпцюрах КДБ

Пасля аспірантуры Пастухоў мог альбо працягнуць навуковую дзейнасць у Інстытуце філасофіі і права АН БССР, альбо пайсці выкладчыкам на юрыдычны факультэт БДУ. «Юрыдычны факультэт БДУ мне падабаўся болей, я там усіх ведаў. Але тым, хто ішоў у АН БССР, давалі кватэры. Вось я і пайшоў», — кажа Пастухоў.

Даследчыцкая праца была не вельмі цікавай. Да таго ж заробак там быў каля 140 рублёў — сярэдні па тых часах. Паўтара гады адпрацаваўшы ў якасці малодшага навуковага супрацоўніка, Пастухоў заўважыў, што народ з Акадэміі навук сыходзіць. І ён вырашыў пашукаць лепш аплачваемую працу.

Пастухоў звярнуўся ў Вышэйшую школу МУС, дзе пры залічэнні давалі капітанскае званне. Двойчы ён праходзіў сумоўе, двойчы яго бралі на працу. Але двойчы прасілі «пачакаць», бо напярэдадні яго былі кандыдаты «па блаце». «У той час я сустрэў знаёмую, якая звяла мяне з выкладчыкам Вышэйшай школы КДБ. Гэта было пасля другога выпадку, калі мяне папрасілі «пачакаць». Мы сустрэліся з гэтым чалавекам, вельмі прадуктыўна паразмаўлялі, пасля чаго мне было сказана, што я падыходжу для выкладання ў гэтай



установе, але праверка зойме пэўны час. Пэўны час расцягнуўся на паўгода. Праверку я прайшоў, так і трапіў у КДБ. Лейтэнанцкавыкладчыцкі заробак быў удвая большы, чым мой «акадэмічны», — расказвае Пастухоў.

## Вязень сумлення

Пастухоў стаў лейтэнантам КДБ напачатку 1985 года. Менавіта ў гэтым годзе пачалося тое, што запомніцца ўсяму свету пад назвай «перабудова». У гэты час шмат хто даведаўся пра тое, чым насамрэч быў КДБ.

«Так, у мяне ўзнікала адчуванне кшталту: «Куды я патрапіў?». З кожным годам мы даведваліся ўсё больш пра тое, якімі метадамі дзейнічаў КДБ. Я, атрымліваецца, быў саўдзельнікам гэткай працы, бо навучаў супрацоўнікаў КДБ», — кажа Пастухоў.

Але ў той жа час Пастухоў пабачыў, як змяняюцца «органы»: «Яны сталі больш займацца сваёй непасрэднай дзейнасцю, сталі менш палітычнымі. Я знайшоў тое, што для мяне было цікава як для даследчыка. Я стаў займацца пытаннямі рэабілітацыі асоб, якія былі незаконна прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці».

Канешне, гэта была і праблема рэабілітацыі ахвяраў сталінскіх рэпрэсій. Архівы КДБ далі Пастухову ўяўленне пра гэтую праблему. Менавіта з-за пабачаных дакументаў ён вырашыў заняцца пытаннямі рэабілітацыі, «каб таго, што было, ужо не паўтаралася». У снежні 1993 года Пастухоў абараняе дысертацыю пад назвай «Рэабілітацыя асобаў, незаконна прыцягнутых да крымінальнай адказнасці: асновы прававога інстытута», і становіцца доктарам юрыдычных навук.

## «Чужы сярод сваіх»

Яшчэ падчас працы ў КДБ Пастухоў як эксперт прымаў удзел у распрацоўцы розных заканадаўчых актаў новай Беларусі. Шчыльна супрацоўнічаў з кіраўніком камісіі ВС 12-га склікання Дзмітрыем Булахавым. «Разам мы абмяркоўвалі рэформу пракуратуры, судовай сістэмы, распрацоўвалі ідэю Следчага камітэта. Булахаў хацеў мадэрнізаваць і КДБ. Ён уключыў мяне ў групу экспертаў, якім было даручана прапрацаваць канцэпцыю судова-прававой рэформы. Гэтая рэформа была распрацаваная, і за гэтую распрацоўку я быў прадстаўлены да ганаровага звання «Заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь», хаця прыняцце канцэпцыі было заблакаванае», — распавядае Пастухоў.

Папера пра ўзнагароду прыйшла па месцы працы Пастухова — у КДБ. Ягонае кіраўніцтва тады было агаломшанае гэтым, і нават прапанавала адмовіцца ад звання. Маўляў, занадта малады, дый лепш «не высоўвацца», а ціхенька служыць, каб не мець непрыемнасцяў. Пастухоў з гэтым нават пагадзіўся, але вырашаць, прымаць яму гэтае званне альбо не, павінен быў афіцэрскі сход. І сход прагаласаваў «за».

## Былых КДБшнікаў не бывае?

Міхаіл Пастухоў з'яўляецца доктарам юрыдычных навук, адным з аўтараў судова-прававой рэформы і адным з распрацоўшчыкаў закона аб Канстытуцыйным судзе. «Як толькі ў сакавіку 1994 года я атрымаў на рукі дыплом доктара юрыдычных навук, я пабег да Булахава, як кажуць, «папантавацца». Я зайшоў, а Булахаў размаўляе з тагачасным шэфам КДБ Генадзем Лавіцкім. Я дэманструю дыплом, а Булахаў мне і кажа, што фарміруецца спіс кандыдатаў у суддзі Канстытуцыйнага суда, і прапануе мяне туды ўпісаць. Гэта пры маім непасрэдным шэфе! Гэта было нечаканым. Дый я ўжо 9 гадоў у КДБ, цудоўная кар'ера — пяць год партупея цісне, а потым яе ўжо не адчуваеш… І ён мяне туды ўнёс», — узгадвае Пастухоў.

Але з КДБ нікога проста так не адпускаюць. Тым больш, што для прызначэння суддзёй трэба было мець даведку з мінулага месца працы, а КДБ такіх даведак не дае. «Маім непасрэдным кіраўніком быў Урал Латыпаў. Ён доўга вагаўся, падпісваць мне даведку альбо не. І ў выніку са словамі: «Хай лёс вырашае, станеш ты суддзёй ці не, бо шансаў прайсці ў цябе няма», паперу ўсё ж падмахнуў», — распавядае Пастухоў.

У той час Прэзідыум ВС зацвярджаў спіс кандыдатур у суддзі, і Пастухова адхіліў. То бок, у «рэкамендаваным для прыняцця» спісе яго імя не было. Але Булахаў меў права выступу перад дэпутатамі, і на пленарным пасяджэнні Пастухова ўсё ж вылучыў. А дэпутаты зацвердзілі.

## Як ён не стаў шпіёнам

Прызначэнне суддзёй выклікала яшчэ адну праблему. Звольніцца з КДБ можна было толькі па стане здароўя альбо па прафнепрыдатнасці. «Фармулёўку аб маім звальненні шукалі доўга, а некаторыя прапаноўвалі ўвогуле не звальняцца, а стаць «афіцэрам дзейнага рэзерву». Гэта значыць, сваім чалавекам у Канстытуцыйным судзе. З гэтай прапановай не пагадзіўся ўжо я: па маральна-этычных прычынах. Я павінен быў быць вольны ад усялякіх залежнасцяў, будучы суддзёй», — падкрэслівае Пастухоў.

Звольнілі з КДБ Пастухова толькі праз паўгода, з доўгай, але паважлівай фармулёўкай у асабістай справе, а па працоўнай кніжцы — у сувязі з пераходам на працу ў Канстытуцыйны суд. Незадоўга да звальнення яму ўсё ж прысвоілі чарговае званне падпалкоўніка.

«Мой заробак у органах на той час перавышаў заробак суддзі, так што я ад такога пераходу толькі страціў: і аплату, і кар'еру», — адзначае з лёгкай іроніяй Пастухоў.

Але хутка надышоў 1996 год.

## Палітычны трылер

19 лістапада 1996 года ў Канстытуцыйны суд быў перададзены пакет дакументаў з подпісам 73 дэпутатаў з патрабаваннем вынесці вердыкт, парушыў альбо не парушыў прэзідэнт Канстытуцыю. Вердыкт КС аб парушэнні прэзідэнтам Канстытуцыі аўтаматычна адхіляў прэзідэнта ад пасады і перадаваў уладу старшыні Вярхоўнага савета.

«Наколькі я ведаю, існавала дзве дамоўленасці са старшынёй КС Валерам Ціхінем. Першая — што справа аб парушэнні прэзідэнтам Канстытуцыі будзе разгледжана тэрмінова. Другая — што да пачатку працэсу імёны 73 дэпутатаў разгалошваца не будуць», — узгадвае Пастухоў.

Пастухова прызначылі суддзёй-дакладчыкам па справе аб парушэнні прэзідэнтам Канстытуцыі. Ён павінен быў тэрмінова падрыхтаваць пасяджэнне. І ён гэта зрабіў. На той момант суд ужо прызнаў 16 указаў прэзідэнта неадпаведнымі Канстытуцыі, але… «У той жа дзень, 19 лістапада, да Ціхіні прыйшоў «сябра дзяцінства», які закрыўся з ім у кабінеце на тры гадзіны. Калі я зазірнуў у пакой, я пабачыў, што Ціхіня «пабіты чырвонымі плямамі». Пасля размовы ён і гэты чалавек пайшлі ў Адміністрацыю прэзідэнта. Гэта было вельмі дзіўна, бо паўгода Ціхіня не перамаўляў з прэзідэнтам, — апошні настойваў на роспуску КС, які «парубіў» столькі ягоных указаў», — узгадвае Пастухоў.

Пасля візіту Ціхіні ў адміністрацыю, старшыня КС паведаміў, што прэзідэнт хоча паразмаўляць з суддзямі. Суддзі адмовіліся. Ціхіня зноў схадзіў да прэзідэнта і даў там згоду, што справа аб імпічменце не будзе разгледжана раней за 22 лістапада.

«Пасля таго, як Ціхіня схадзіў у адміністрацыю, там апынуўся спіс «падпісантаў» імпічменту. Шмат якія дэпутаты потым сведчылі, што на іх аказваўся вельмі моцны ціск з тым, каб яны адклікалі свае подпісы пад імпічментам. Некаторыя гэта зрабілі, і падпісантаў стала менш за неабходныя 70. З-за гэтага імпічмент быў адкладзены на «пасля рэферэндуму», — распавядае Пастухоў.

Рэферэндум прайшоў так, як ён прайшоў. «Ужо на наступны дзень пасля рэферэндуму, 26 лістапада, былі падведзеныя вынікі рэферэндуму новым ЦВК на чале з Ярмошынай, па ініцыятыве 103 дэпутатаў быў распушчаны Вярхоўны савет — у парушэнне кворуму і Канстытуцыі. Гэтыя 103 дэпутата незаконна прынялі закон аб роспуску ВС і закон аб спыненні справы аб парушэнні прэзідэнтам Канстытуцыі Беларусі», — кажа Пастухоў.

Суддзі КС у роспачы прагаласавалі за спыненне справы, супраць чаго выступіў Пастухоў. На ягоную думку, гэты «закон» быў прыняты ў парушэнне ўсіх законных нормаў. А таму справу імпічменту варта працягваць. Ягонае «асабістае меркаванне» па гэтым пытанні нават апублікаванае ў «Весніку Канстытуцыйнага суда».

## Апошні легітымны суддзя

У сувязі са зменай Канстытуцыі з Адміністрацыі прэзідэнта паступіла паведамленне: тыя суддзі, хто «няправільна» галасаваў па пытанні аб імпічменце, могуць напісаць заяву па звальненні па ўласным жаданні. У падзяку яны атрымаюць выходную дапамогу і магчымасць вольнага працаўладкавання. Напісалі ўсе. Апроч Пастухова.

«Так, мы не маглі ажыццяўляць свае паўнамоцтвы, бо няма легітымнай Канстытуцыі. Таму я напісаў толькі заяву ў Прэзідыум ВС на імя старшыні ВС, тады Сямёна Шарэцкага, з просьбай прыпыніць мае паўнамоцтвы датуль, пакуль не будзе ўзноўленая канстытуцыйная законнасць. Тым больш, што ў Канстытуцыю былі ўнесеныя толькі змены, а суддзі абіраліся на 11 гадоў. То бок, змены выключна нас не датычыліся, і нашы паўнамоцтвы павінны былі цягнуцца 11 гадоў», — кажа Пастухоў.

Пастухоў дагэтуль з'яўляецца адзіным легітымным суддзёй Канстытуцыйнага суда.

## Нішто не цягнецца вечна

Пастухоў прызнаецца, што ў нейкія змрочныя часы ён падумвае пра тое, што мог бы даслужыцца да генерала, зараз мець дастатак і пасаду, быць пенсіянерам, уладкавацца ў Расіі… «Але я дагэтуль пераканаецца, што адзіная легітымная Канстытуцыя — Канстытуцыя 1994 года. Я ўпэўнены, што Лукашэнка не мог вызваліць мяне ад пасады сваім указам, як не мог вызваліць ад пасады старшыню ЦВК, майго сябра Віктара Ганчара. І калі-небудзь законнасць будзе», — заяўляе Пастухоў. Можа, гэта яму і дапамагае па жыцці?

## 12 КРАСАВІКА, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія).
**10.05** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**11.00** Канцэрт.
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.45** Нябачны фронт.
**13.10** Рэальны свет.
**13.45** Народная камедыя «Сваты-5» (Украіна). Заключная серыя.
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.40** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**17.45** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія).
**19.20, 22.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**22.00** Дыялогі пра цывілізацыю.
**23.15** Дзень спорту.
**23.30** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** Прэм'ера. «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** Прэм'ера. «Позняе каханне Станіслава Любшына».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дзве зоркі».
**22.45** Фільм «Апошняя казка Рыты».
**01.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Каханне 911».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Параграф 78». Расія, 2007 г.
**15.30** «Хороша жыць».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Прафесіяналы». Францыя-Італія-Вялікабрытанія, 2004 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа богаў».
**23.50** «Кулінар». Серыял. Закл. серыя.
**00.45** Еўрапейскі покерны турнір.
**01.35** Фільм «Ліван». Ізраіль-Францыя-Ліван-Нямеччына, 2009 г.
**03.05** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прыгодніцкі баявік «Снайпер. Зброя адплаты» (Беларусь - Расія). 4-я, заключная, серыя.
**10.15** Час футболу.
**11.05** Прыгодніцкі баявік «Рыцары неба» (Францыя).
**13.00** Прыгодніцкі баявік «Танкер «Танга» (Расія). 5-я і 6-я, заключная, серыі.
**15.05** Камедыя «Сем старых і адна дзяўчына» (СССР).
**16.45** «Новы касмічны адлік». Дакументальны фільм (Белтэлерадыёкампанія).
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. Таварыскі матч. Беларусь - Славакія. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Арэна.
**22.00** Фактар сілы.
**22.35** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.25** Містычны трылер «Чацвёрты від» (ЗША - Вялікабрытанія).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Правa на сустрэчу».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Уся Расія».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Каменская».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «У лясах і гарах».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** «Бітва за «Салют». Касмічны дэтэктыў».
**21.30** Фільм «Букет» (2012 г.).
**23.20** Навіны - Беларусь.
**23.30** «Чужыя таямніцы. Поры года».
**00.10** «Каранаваныя асобіны». Фільм.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія жонкі».
**11.05** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Серыял «Муж і жонка».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Ляснік».
**21.20** Дэтэктыў «Чужы раён-2».
**23.00** Фільм «Служу Савецкаму Саюзу».
**00.45** «Бітва за поўнач. Арктычны шэльф».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**05.50** М/с «Робін Гуд».
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі ў пошуках смаку».
**07.20** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Д/ф «Наша ракета».
**10.00, 01.45** М/ф «Разбег».
**11.30** «На шашлыкі».
**12.25, 01.20** «Сардэчна запрашаем».
**12.55, 03.05** М/ф «Лятучая дзяўчына».
**14.45** «Рэспубліка сёння».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** «Сакрэтныя матэрыялы».
**17.30** «Злачынствы і пакаранне».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** М/ф «Флэш.ка».
**21.25** «Любімыя акцёры».
**21.55** М/ф «Васіль і Васіліса».
**23.40** Т/с «Трыццаць выпадкаў з жыцця маёра Земана».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.45** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Горад з мора», серыял: 2 серыя.
**10.55** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**11.05** «Апантаныя 2», дак. цыкл.
**11.20** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**11.50** Студыя «Белсат».
**13.20** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.45** Аб'ектыў.
**14.15** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.35** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.05** «Горад з мора», серыял: 2 серыя.
**15.50** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**16.00** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**16.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**16.40** «Апантаныя 2», дак. цыкл.
**16.50** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**17.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**18.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** ПраСвет.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Палітыканы», серыял: 7 серыя.
**22.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.05** Студыя «Белсат».
**00.35** ПраСвет.
**01.05** Аб'ектыў.
**01.10** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**01.50** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 13 КРАСАВІКА, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.20** Камедыя «Суседзі» («Беларусьфільм»).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.40** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія). 1-я серыя.
**10.45** Здароўе.
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**12.10** Авантурная камедыя «Хачу ў турму» (Расія).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Баявік «Агент 117. шпіёнскае гняздо» (Францыя).
**17.25** Каробка перадач.
**18.00** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.10** Фантастычная камедыя «Чумавая пятніца» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.40** Трылер «Дамавік» (Расія).
**23.35** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія). 1-я серыя.

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Разумніцы і разумнікі».
**11.50** Фільм «Каліна чырвоная».
**13.50** «Абракадабра».
**15.25** «Зваротны адлік».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**17.00** «Адзін супраць усіх».
**17.50** Прэм'ера. «Куб».
**18.55** «Акадэмія талентаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.50** «Што? Дзе? Калі?».
**00.05** Фільм «Вячэра з прыдуркамі».

### СТВ

**06.20** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**08.00** Фільм «Прафесіяналы». Францыя-Італія-Вялікабрытанія, 2004 г.
**09.40** «Чыстая праца».
**10.30** «Уявіце сабе».
**11.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Фільм «Гардэмарыны, наперад!». СССР, 1987 г. 1-я серыя.
**15.10** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Кахаць па-руску». Расія, 1995 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Белы шум». Вялікабрытанія-Канада-ЗША, 2005 г.
**22.05** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг». Новы сезон.
**23.20** «Дзіўная справа».
**00.10** Фільм «Каралева шантэклера». Іспанія, 1962 г.
**02.00** «Дурні, дарогі, грошы».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.15** Фільм-дзецям. «Прыгоды Бураціна» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**08.25** Пазакласная гадзіна.
**08.45** Тэлебарометр.
**08.50** Камедыя «Сем старых і адна дзяўчына» (СССР).
**10.30** Прыгодніцкі баявік «Рыцары неба» (Францыя).
**12.30** Наперад у мінулае.
**13.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.40** Беларуская кухня.
**14.15** Мазгавы штурм.
**14.50** Трагікамедыя «Анкор, яшчэ анкор!» (Расія).
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.25** Вышэй за дах.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Імперыя песні.
**22.20** Авантурная камедыя (Расія).
**00.10** Хакей. Таварыскі матч. Беларусь - Славенія.

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Залатыя нябёсы» (2011 г.).
**08.40** Фільм «Букет» (2012 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.30** Фільм «З каханымі не раставайцеся».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Хто не пускае нас на Марс?».
**15.50** Тэлесерыял «Байкі Міцяя».
**17.50** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Фільм «Правілы жыцця» (2012 г.).
**23.50** Фільм «Час шчасця» (2011 г.).

### НТВ

**06.25** Серыял «Алібі» на дваіх».
**08.00** Сёння.
**08.20** Агляд.
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.15** Дэтэктыўная меладрама «Грамадзянка начальніца».
**15.10** «Судовы дэтэктыў».
**16.20** «Следства вялі...».
**17.15** Вострасюжэтны дэтэктыў «Мент у законе-6».
**19.00** Сёння.
**19.20** Вострасюжэтны дэтэктыў «Мент у законе-6».
**21.05** «Руская сенсацыя». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.05** «Ты не павериш!».
**23.00** Вострасюжэтны фільм «Помста без права перадачы».
**00.40** «Прамень святла».
**01.10** «Рэакцыя Васэрмана».

### МИР

**05.00** Д/ф «Дзяржаўны Эрмітаж «.
**05.35** М/ф-мы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.15** «Эксперыментатары».
**08.30** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «На шашлыкі».
**09.40** «Зроблена ў СССР».
**10.10, 23.00** М/ф «Глядзі весялей».
**13.40** М/ф «Не прызвычайвайцеся да цудаў».
**15.10** «Па шчырасці».
**15.40** Т/с «Атлантыда».
**20.05** «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.50** М/ф «Кватарант».
**22.30** «Музычны ілюмінатар».
**02.30** «Цюркі Расіі».
**03.25** М/ф «Музычная гісторыя».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.45** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.00** Форум (ток-шоў).
**11.45** Казкі для дзетак: «Падарожжа Цюхці, поўнае прыгодаў», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры Яблыкі», «Пацюкі».
**12.10** «Горад з мора», серыял: 2 серыя.
**13.00** «Час гонару», серыял: 21 серыя.
**13.45** «Навенькая», дэтэктыўны серыял: 8 серыя.
**14.35** Без рэтушы: «Няпростае вяртанне», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**14.50** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Валенбэрг».
**15.40** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: ч. 3.
**16.45** «Палітыканы», серыял: 7 серыя.
**17.35** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 15 серыя.
**18.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**19.00** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.10** «Па Транссібе», дак. фільм, 2007 г., Германія: ч. 2.
**20.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 26.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**21.45** Суботні сеанс: «Два каханні», маст. фільм, 2002 г., Польшча–Германія.
**23.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**23.45** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**00.00** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 14 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

**БЕЛАРУСЬ 1**

**07.20** Авантурная камедыя «Хачу ў турму» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія). 2-я серыя.
**10.45** Медычныя таямніцы.
**11.15** Кулінарная дыпламатыя.
**11.45** Нашы.
**12.10** Камедыя «Дзелавыя людзі» (СССР).
**13.55** Eurovision. Вынікі тыдня.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Тэлестужка АТН.
**16.00** Заўтра - гэта мы!
**16.30** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**17.30** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**18.35** Драма «Фаварыт» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Крымінальны трылер «Аднойчы ў Марсэлі» (Францыя).
**00.30** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія). 2-я серыя.

**АНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** Фазэнда.
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.30** Фільм «Кін-дза-дза!».
**15.00** Прэм'ера. «Віктар Чарнамырдзін. «У харызме трэба нарадзіцца».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Асяроддзе пасялення.
**17.20** Прэм'ера. «Форт Баярд».
**18.50** АНТ прадстаўляе: «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Вялікая розніца ТБ».
**22.55** Камедыя «Гарачыя галовы».
**00.35** Фільм «Давай зоймемся каханнем».

**СТВ**

**06.20** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял. Заключная серыя.
**07.10** «Хораша жыць».
**08.00** Фільм «Каралева шантэклера». Іспанія, 1962 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Гардэмарыны, наперад!». СССР, 1987 г. 2-я серыя.
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Прэм'ера. Фільм «Юнайтэд. Мюнхенская трагедыя». Вялікабрытанія, 2011 г.
**22.30** Прэм'ера. «Пякельная кухня - 2».
**23.50** Фільм «Чэ Гевара». ЗША, 2006 г.
**01.15** «Дурні, дарогі, грошы».

**БЕЛАРУСЬ 2**

**06.45** Фільм-дзецям. «Прыгоды Бураціна» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**07.55** Пазакласная гадзіна.
**08.15** Тэлебарометр.
**08.20** Авантурная камедыя (Расія).
**10.10** Трагікамедыя «Анкор, яшчэ анкор!» (Расія).
**12.10** Пра мастацтва.
**12.40** Прыгодніцкая камедыя «Воднае жыццё» (ЗША).
**15.00** Меладраматычны серыял «Ціхі цэнтр» («Беларусьфільм»). 1-я - 4-я серыі.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**21.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Чэлсі - Тотэнхэм.
**23.40** Спорт-кадр.
**00.25** «Чвэрць стагоддзя на сцэне». Канцэрт А.Саладухі.

**РОССИЯ**

**07.00** Фільм «Правілы жыцця» (2012 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Фільм «Настаўнік спеву».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.10** «Тытанік».
**17.05** Тэлесерыял «Байкі Міцяя».
**18.15** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** «Фактар А».
**23.20** «Нядзельны вечар».

**НТВ**

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Алібі» на дваіх».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** Дэтэктыўны серыял «Порах і дроб».
**16.55** Выратавальнікі.
**17.25** «Вочная стаўка».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.40** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.35** Вострасюжэтны серыял «Марскія д'яблы. Лёсы».
**23.15** «Жалезныя лэдзі».
**00.00** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

**МИР**

**05.00** Д/ф «Дзяржаўны Эрмітаж».
**05.35** М/ф-мы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Даведнік».
**09.35** «Ежа».
**10.05** «Незорнае дзяцінства».
**10.30, 23.40** М/ф «Клятва».
**13.05** М/ф «Флэш.ка».
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50, 21.00** Т/с «Я шпік».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.50** М/ф «Атланцік-сіці».
**02.25** «Цюркі Расіі».
**03.25** М/ф «Антон Іванавіч сярдуе».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Прыгоды і паходы».
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 15 серыя.
**08.05** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.25** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** Без рэтушы: «Няпростае вяртанне», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**10.35** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**11.00** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.20** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.40** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Прыгоды і паходы».
**12.10** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 15 серыя.
**12.35** «Час гонару», серыял: 22 серыя.
**13.25** «Ночы і дні», серыял: 8 серыя.
**14.15** «Па Транссібе», дак. фільм, 2007 г., Германія: ч. 2.
**15.05** Назад у будучыню.
**15.15** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: ч. 1, 2.
**16.15** «Два каханні», маст. фільм, 2002 г., Польшча–Германія.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Невядомая Беларусь: «Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.00** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Таямніца тэлеграмы Цымэрмана».
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.55** Дакументальная гадзіна: «Крама ў Дзукіі, Літва», дак. фільм, 2006 г., Германія–Францыя.
**20.25** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Форум (ток-шоў).
**22.45** Фільматэка майстроў: «Кава і цыгарэты», камедыя, 2003 г., ЗША.
**00.20** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 26.
**00.45** Два на два (тэледыскусія).
**01.15** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 604 34 57 Юрый; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

**Для тых, хто прымае рашэнні!**
Новы час
**www.novychas.org**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________

Кассир Всего ________

АНАЛІЗ

# АЗЕРБАЙДЖАНСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ — ВІРТУАЛЬНА-РЭАЛЬНАЯ

Маўсун ГАДЖЫЕЎ

**Арабская вясна прыходзіць і ў Азербайджан. Ва ўсялякім разе, апаненты ўлады ў Баку на тое спадзяюцца і рыхтуюцца да прэзідэнцкіх выбараў у кастрычніку гэтага года. А таксама імкнуцца выкарыстоўваць у сваёй дзейнасці падобныя тэхналогіі — галоўнай іх зброяй робяцца Фэйсбук і Твітар.**




Невялікі офіс у цэнтры Прагі. Ідзе сход маладых актывістаў з Азербайджана. Некаторыя з іх стала пражываюць у ЕС, але большасць з Баку. Усе яны — актывісты Аб'яднання за дэмакратыю ў Азербайджане (АДА), якія сабраліся абмеркаваць тактыку росту пратэстнага руху ў краіне. Галоўны вынік сходу маладых апазіцыянераў — рашэнне пра стварэнне новага тэлеканала.

Гурбан Даглы, кіраўнік АДА, які жыве ў Берліне, тлумачыць: «Фэйсбук адыгрывае ролю вельмі нядрэннай мабілізацыі для 20–30 тысяч чалавек. Але для таго, каб дамагчыся карэнных, дэмакратычных зменаў у краіне, на вуліцы павінны выйсці тысяч сто. А тут без тэлеканала не абысціся». Менавіта таму, па словах Гурбана, яны распачынаюць рэалізацыю новага праекта — запуску «Мейдан ТБ». Новы тэлеканал днямі пачне сваё вяшчанне. «Пакуль ён будзе працаваць у рэжыме анлайн. Але мы цяпер актыўна займаемся зборам сродкаў і ў хуткім часе плануем выйсці на спадарожнік», — адзначае Гурбан Даглы.

Старшыня праўрадавай партыі «Радзіма», дэпутат Нацыянальнага сходу Фазаіл Агамалы заявіў, што ў Азербайджане Фэйсбук у першую чаргу з'яўляецца інструментам змагання супраць уладаў.

Асцярогі дэпутата маюць падставы — 10 сакавіка ў цэнтр Баку на акцыю пратэсту выйшлі каля 5 000 чалавек. Фармальна, акцыя была прысвечана масавай гібелі салдат у азербайджанскім войску — паводле афіцыйных дадзеных, з пачатку года азербайджанскае войска ў мірных умовах страціла 17 салдат. Усе яны сталі ахвярамі «нестатутных адносін». Аднак арганізатары не хаваюць, што іх канчатковая мэта — змена ўлады ў Азербайджане «шляхам масавых вулічных акцый». Плошча Фантанаў ператварылася ў поле бою амаль на гадзіну — спробы паліцыі разагнаць акцыю з дапамогай дубінак не мелі поспеху. Пасля гэтага на месца сутыкненняў пад'ехала спецтэхніка — вадамёты і апаратура, якая генеруе шумавую атаку. Аднак нават пасля гэтага мітынгоўцы аказвалі моцны супраціў — шмат хто клаўся пад колы вадамётаў і бронетранспарцёра. Для разгону апазіцыянераў паліцыя таксама ўжывала гумовыя кулі. Пры гэтым паліцыя здолела затрымаць усяго 54 чалавекі — справа ў тым, што пратэстоўцы сумеснымі высілкамі адбівалі затрыманых у паліцэйскіх.

У лідарстве пратэстнага руху ўсё больш умацоўваецца 33-гадовы Эмін Мілі. Пасля заканчэння Бакінскага дзяржаўнага ўніверсітэта ён працягваў навучанне ў Лондане ва Універсітэце краін Азіі і Афрыкі. Пасля вяртання ў Баку Эмін актыўна ўключыўся ў палітычную дзейнасць, выкарыстоўваючы благасферу. Улетку 2009 года ён сумесна з іншым блогерам Аднанам Гаджызадэ апублікаваў ролік сатырычнай прэс-канферэнцыі, у якім Гаджызадэ, апрануты аслом, распавядаў пра тое, што «аслам вельмі цяжка жыць у Еўропе, але калі ты жывеш у Азербайджане, лепш быць аслом, чым чалавекам». Прытым асёл на прэс-канферэнцыі сцвярджаў, што ў яго «вышэйшая катэгорыя — А: ён атрымаў добрую адукацыю, і хоць у яго аслiная душа, ён свабодна размаўляе на трох еўрапейскіх мовах». Гэта расцанілі як непрыкрыты намёк на Ільхама Аліева. Адразу пасля гэтага блогераў арыштавалі за бойку ў кафэ (хоць на блогераў быў здзейснены напад з боку людзей спартовага целаскладу). Суд прысудзіў іх да 2 гадоў пазбаўлення волі. Але гэта выклікала буйны міжнародны скандал: за блогераў заступіліся амерыканскія і еўрапейскія арганізацыі. Пасля таго, як Барак Абама асабіста выказаў прэтэнзію Ільхаму Аліеву, Мілі і Гаджызадэ вызвалілі.

У той жа час лідары дзвюх найбуйнейшых апазіцыйных партый краіны — «Народнага Фронту» Алі Керымлі і «Мусават» («Роўнасць») Іса Гамбар абмежаваліся тым, што асудзілі ўладу за ўжыванне гвалту супраць мірнай акцыі. На мітынг 10 сакавіка прыйшоў толькі лідар руху «Азербайджан 2013» Арастун Аруджлу.

«Сістэма кiравання ў Азербайджане прагніла, яна страціла здольнасць адэкватна рэагаваць на сітуацыю і адказвае на кожную праяву незадаволенасці ўжываннем грубай сілы. Але, як паказвае практыка, гэты метад вельмі не надзейны — падчас пратэстаў у рэгіёнах краіны мясцовыя сілавікі адмаўляліся ўжываць сілу супраць мітынгоўцаў, і кожны раз з Баку спешна перакідалі падраздзяленні паліцыі і ўнутраных войскаў для здушэння выступаў незадаволеных. А калі раптам успыхне адначасова ў некалькіх месцах і ў Баку? Тады ўсё разваліцца як картачны дамок», — упэўнены Арастун Аруджлу.

Акрамя таго, ён нагадаў, што адсутнасць маналітнасці ва ўладзе і праблемы ў знешняй палітыцы — як у расійскім, так і ў заходнім накірунку — могуць перашкодзіць уладзе эфектыўна супраціўляцца выступам апазіцыі. У 2003 годзе азербайджанская ўлада, мабілізаваўшы ўсе свае сілы, салідарна ўдзельнічала ў здушэнні акцый пратэсту апазіцыі супраць фактычнага спадчыннага пераходу ўлады ад Гейдара Аліева да яго сына Ільхама — дэманстрантаў на Плошчы Свабоды ў Баку збівалі нават асабістыя целаахоўнікі чыноўнікаў.

Зараз жа супрацьстаянне ў асяроддзі кiроўнай азербайджанскай эліты ўжо пачынае выходзіць у адкрытую плоскасць. Спакой парушыў клан Пашаевых — сваякі жонкі прэзідэнта краіны Мехрыбан Аліевай. Гэты клан мае трывалыя пазіцыі ў бізнэс-структурах краіны — у прыватнасці, «Pasha Xolding» кантралюе банкаўскую сістэму Азербайджана. Блізкім да клана лічыцца і тэлеканал ANS. Цяпер гэта групоўка спрабуе актыўна выцесніць другі клан, які складаецца з прыхільнікаў кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Раміза Мехціева. Гэтаму клану падкантрольная вялікая частка адміністрацыйнага апарата, у тым ліку сілавыя структуры, а таксама ўсе тэлеканалы краіны, за выключэннем ANS. Першыя спробы нанесці ўдар па «мехціеўцах» былі зробленыя ў 2005 годзе — тады Ільхам Аліеў загаварыў пра хуткую адстаўку аднаго з ключавых фігурантаў гэтага клана, міністра ўнутраных спраў Раміля Усубава. Але кіраўнік МУС апераджальным ударам адвёў ад сябе пагрозу — ён раптам з'явіўся ў эфіры тэлеканала ANS, дзе распавёў цікавую гісторыю. Высветлілася, што ў 1998 годзе азербайджанскія паліцыянты па асабістым указанні Гейдара Аліева вызвалілі са зняволення арыштаванага наёмнага забойцу з Дагестана. Кілера пад канвоем паліцыі давезлі да расійскай мяжы і там вызвалілі. Назіральнікі ў Баку гэта адразу расцанілі як непрыкрытую пагрозу — міністр намякаў на кампрамат, які ў яго маецца на кiроўны рэжым. Як бы там ні было, Усубаў тады выстаяў.

Другім разам дзве групоўкі скрыжавалі свае шпагі ў 2008 годзе. Тады, адразу пасля абрання Ільхама Аліева на другі прэзідэнцкі тэрмін, у блізкіх да Пашаевых СМІ загаварылі пра тое, што на наступных выбарах улада высуне кандыдатуру Мехрыбан Пашаевай — тагачасная рэдакцыя азербайджанскай канстытуцыі не дазваляла аднаму чалавеку займаць пасаду прэзідэнта больш за 2 разы. Але з гэтай задумы нічога не атрымалася — у сакавіку 2009 года ў краіне прайшоў рэферэндум, паводле вынікаў якога пункт Канстытуцыі пра абмежаванне прэзідэнцкага тэрміну скасавалі. Назіральнікі ацанілі гэта як відавочную перамогу прыхільнікаў Раміза Мехціева.

У гэтым годзе сітуацыя для кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта не такая адназначная. Рамізу Мехціеву прадракаюць хуткую адстаўку — паводле незалежных крыніц, ён зойме пасаду прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук. Калі верыць гэтым крыніцам, аслабленню пазіцый Мехціева спрыяла яго хвароба — у 75-гадовага кіраўніка адміністрацыі цяжкая форма дыябету і рак. Яму часта даводзіцца з'язджаць на лячэнне ў Германію. Аслабленне пазіцый Мехціева стала відавочным пасля таго, як практычна ўсё кіраўніцтва праўладнай партыі «Новы Азербайджан» адсутнічала на нядаўняй прэзентацыі яго кнігі. Праўда, у лагеры Мехціева таксама «паказвалі зубы» — падчас папярэдняй акцыі «партыі Фэйсбук» у цэнтры Баку падраздзяленні спецназу і ўнутраных войскаў, сцягнутыя на месца падзей, паводзілі сябе, нібы лонданскія паліцыянты падчас акцый у Гайд-Парку, — моўчкі назіралі збоку.

Нявызначанасць расстаноўкі сіл не дазваляе прадстаўнікам астатніх, драбнейшых кланаў абмаляваць свае пазіцыі. Групоўкі, якія ўзначальваюць міністр МНС Камаледзін Гейдараў, міністр шляхоў зносін Зійя Мамедаў і кіраўнік службы бяспекі прэзідэнта Бейлер Эйюбаў, пакуль прытрымліваюцца нейтралітэту. Але шалі ўсё больш схіляюцца на бок Пашаевых — крыніца, блізкая да афіцыйных структур, паведамляе, што цяпер у калідорах улады актыўна абмяркоўваецца праект, паводле якога ўлады на хуткіх выбарах могуць высунуць кандыдатуру Мехрыбан Аліевай ці яе бацькі, які быў прадстаўніком Азербайджана ў ААН, Хафіза Пашаева. На карысць такога сцэнару — тое, што вылучэнне Ільхама Аліева на трэці тэрмін выкліча незадаволенасць як Захаду, так і Масквы.

ЕС і Дзярждэп ЗША ўжо выступілі з некалькімі заявамі, дзе выказалі заклапочанасць станам грамадзянскіх свабод у Азербайджане. Яшчэ больш складанымі застаюцца стасункі з Расіяй. Адносіны сур'ёзна сапсаваліся пасля адкрыццяў «Вікілікса», дзе амерыканскія дыпламаты распавялі пра стаўленне азербайджанскага прэзідэнта да кiроўнага расійскага тандэму, які назвалі «Твіксам». Акрамя таго, Ільхам Аліеў сцвярджаў: Захаду і Азербайджану лепш было б мець справу з Мядзведзевым, з якім прасцей дамаўляцца, чым з Пуціным.

З 2011 года Ільхам Аліеў і Уладзімір Пуцін пазбягаюць сустрэч. «Імперская палітыка Крамля» і «рука Масквы, што тузае за ніткі ў Карабаху», — гэта традыцыйны лексікон афіцыйных бакінскіх СМІ. У Баку таксама вельмі хваравіта ўспрынялі стварэнне ў Маскве новай азербайджанскай дыяспарскай структуры — Саюза азербайджанскіх арганізацый Расіі (СААР). Прадстаўнікі СААР не хаваюць, што збіраюцца прымаць актыўны ўдзел у восеньскіх прэзідэнцкіх выбарах у Азербайджане. СААР у бакінскіх СМІ прынята называць «Саюзам мільянераў» — у гэтай арганізацыі сабраліся прадстаўнікі бізнэс-эліты азербайджанскай абшчыны ў Расіі на чале з Тэльманам Ісмаілавым, Аразам Агаларавым і Абасам Абасавым. Створаны ў Баку рух «Эль» («Народ») лічыцца блізкім да СААР — у абедзвюх арганізацыях прыкметную ролю адыгрывае вядомы азербайджанскі рэжысёр, аскараносец Рустам Ібрагімбекаў. Прадстаўнік СААР, даверaная асоба Уладзіміра Пуціна Саюн Садыкаў ужо паведаміў, што яго арганізацыя можа высунуць кандыдатуру Абаса Абасава на прэзідэнцкіх выбарах у Азербайджане. У выбарах прыме ўдзел і лідар «Эль» Эльдар Намазаў.

Асцярогі азербайджанскага боку ўзмацніў і прэзідэнт Грузіі Міхаіл Саакашвілі, які на мінулым тыдні, пасля вяртання з Баку, паведаміў, што «Масква рыхтуе ў Азербайджане змену ўлады, аналагічную грузінскаму сцэнару 2012 года».

Пакуль афіцыйны Баку на пратэстную актыўнасць адказвае жорсткімі рэпрэсіямі. У сярэдзіне лютага ўлады арыштавалі аднаго з ключавых кандыдатаў у прэзідэнты ад апазіцыі, лідара руху «Рэспубліканская альтэрнатыва» (РэАл) Ільгара Мамедава. Яго абвінавацілі ў арганізацыі масавых беспарадкаў у горадзе Ісмаілы напачатку лютага. Пры гэтым уладам было ўсё адно, што Ільгар Мамедаў у Ісмаілы паехаў пасля заканчэння беспарадкаў і сутыкненняў з паліцыяй. Пад арыштам апынуліся і кіраўнікі моладзевай арганізацыі «Nida» («Покліч»). Іх вінавацяць у падрыхтоўцы да дзяржаўнага перавароту (следчыя сцвярджаюць, што падчас ператрусаў у іх кватэры знайшлі некалькі скрыняў «кактэйляў Молатава»). У афіцыйных СМІ не выключаюць, што хуткім часам улады могуць прыняць рашэнне заблакаваць Фэйсбук у Азербайджане.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУНІС. HARLEM SHAKE — ТАНЕЦ СІЯНІСТАЎ?

Як вядома, свет перажывае павальную моду на так званы інтэрнэт-мем «Harlem Shake» — танец, сутнасць якога ў тым, каб у экзатычных касцюмах прымаць незвычайныя позы і рабіць хаатычныя рухі. А вось у ісламскіх краінах, напрыклад у Тунісе, «Harlem Shake» стаў зброяй у руках праціўнікаў шарыяту. Пачалося ўсё з таго, што вучні адной са школ вырашылі выканаць сваю версію танца, прычым некаторыя дзяўчынкі-ўдзельніцы былі апранутыя ў традыцыйнае ісламскае адзенне. Выкладзены ў сеціва ролік выклікаў шок у кансерватыўнай часткі грамадства. Найбольш радыкальныя ісламісты арганізавалі нешта накшталт вулічных патрулёў, якія намагаюцца зрываць здымкі падобных нумароў. Прычым аргументы ў іх цікавыя: «Як вы можаце танчыць, пакуль у Палесціне паміраюць нашы браты?!» — кажуць фундаменталісты. У прэсе пачалася кампанія, паводле якой, усе, хто танчыць «Harlem Shake», — сіяністы. На самай справе, ісламістаў, хутчэй за ўсё, непакояць выразныя эратычныя жэсты ўдзельнікаў танцу. Так ці інакш, міністэрства адукацыі Тунісу пад ціскам вернікаў было вымушана ўвесці штрафы для настаўнікаў, які дазваляюць сваім вучням займацца «Harlem Shake». У адказ нехта ўзламаў сайт Мінадукацыі і павесіў на ім аб'яву пра пачатак «Mega Harlem Shake». Цяпер моду на антыісламскі танец падхапілі ў Егіпце. Там ужо правялі флэшмоб каля цэнтральнага офісу «Братоў-мусульман».

**Паводле нямецкай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. РАДЫЁСТАНЦЫЯ ДЛЯ СВЯДОМАСЦІ ТАЛЫШОЎ

З 20 сакавіка з горада Шуша ў Нагорным Карабаху пачала сваё вяшчанне радыёстанцыя «Голас Талышстана». Мэта станцыі — садзейнічаць росту нацыянальнай свядомасці талышоў — этнасу, які жыве на поўдні Азербайджана. У Азербайджане талышы сістэматычна падвяргаюцца ціску і рэпрэсіям на этнічнай глебе. Сам факт рэалізацыі такога праекту складана пераацаніць: Арменія спрабуе аслабіць суседнюю краіну за кошт актывізацыі ўнутраных сепаратысцкіх рухаў. Наколькі выніковым можа быць гэты праект, цяжка сказаць. З аднаго боку, рух талышоў, якіх афіцыйна каля 100 тысяч, а неафіцыйна каля 400 тысяч, сапраўды вельмі заўважны — у іх ёсць свае сайты, тры газеты, моцная палітычная эміграцыя. Таксама варта ўзгадаць пра тое, што ў 1993 годзе мела месца спроба стварэння талышскай аўтаноміі, якую Гейдар Аліеў жорстка здушыў. З іншага боку, амаль усе талышскія палітычныя ініцыятывы патрабуюць вяртання Нагорнага Карабаху ў склад Азербайджана, таму наўрад ці станаўленне талышскага руху, чаму спрыяе Арменія, аслабіць карабахскае пытанне.

**Паводле армянскай прэсы**

### ТАТАРСТАН. УСЕ СУПРАЦЬ ЖАННЫ БІЧЭЎСКАЙ



Гастролі ў Казані вядомай расійскай спявачкі Жанны Бічэўскай выклікалі пратэсты з боку татарскіх нацыяналістаў. Яны лічаць, што некаторыя тэксты артысткі ўтрымліваюць ксенафобскую прапаганду. Так, пад каток крытыкі трапіла песня «Кулікова поле», у якой прысутнічаюць заклікі не толькі да аднаўлення расійскай імперыі ў межах 1917 года, аднак і да ўключэння ў яе склад нават Стамбула (Канстанцінопаля) і, нарэшце, да інкарпарацыі Ізраіля. «Возвратит Россия Русский Севастополь, / Станет снова Русским полуостров Крым. /Наш Босфор державный, наш Константинополь/ И святыня мира Иерусалим», — спявае Жанна. Татарам непасрэдна не спадабалася частка песні пра тое, што Крым таксама будзе рускі, хаця ён, па іх словах, павінен быць выключна крымска-татарскім. Актывісты татарскага руху ўжо паскардзіліся ў ФСБ на гэты конт, аднак Лубянка выдала кароткі адказ — нічога супрацьзаконнага ў песні няма. Сама Бічэўская шчыра не разумее татарскіх нацыяналістаў. Застаецца дадаць, што частка татарскіх інтэлігентаў асудзіла пратэсты супраць гастроляў Бічэўскай, паколькі такія акцыі ствараюць спявачцы папулярнасць і дадатковую рэкламу.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. BBC НЕ БУДЗЕ СУМАВАЦЬ ПА ТЭТЧЭР

Супрацоўнікі брытанскай радыёстанцыі BBC, якія абвясцілі страйк, зрабілі адначасова незвычайную заяву, паводле якой журналісты могуць у любы час прыпыніць забастоўку і вярнуцца ў эфір, каб асвятліць магчымую смерць Нельсана Мандэлы. Славуты змагар з апартэідам, якому стукнула 84 гады, на мінулым тыдні трапіў у шпіталь, і стан яго здароўя, калі меркаваць па афіцыйных заявах з Прэторыі, вельмі кепскі. Такі падыход выклікаў інтарэс журналістаў, якія зацікавіліся, ці пачне працаваць студыя ў выпадку смерці Маргарэт Тэтчэр, якая ва ўзросце 87 гадоў таксама скардзіцца на здароўе. Аднак, аказалася, на адрас Жалезнай лэдзі прафсаюз журналістаў не такі літасцівы. Па словах яго лідара, смерць Тэтчэр для супрацоўнікаў BBC не стане падстава спыніць страйк. Сваю пазіцыю прафсаюзы тлумачаць палітыкай, якую праводзіў кабінет Тэтчэр у 1980-я гады ў дачыненні да прафсаюзаў, і ў прыватнасці да прафсаюзу BBC. Тады мелі месца масавыя скарачэнні калектыву станцыі.

**Паводле брытанскай прэсы**

▸ КАНФЛІКТ

# ГНОМЫ КІМ ЧЭН ЫНА

*Алег НОВІКАЎ*

**Калі верыць некаторым публікацыям, вынаходніцтвам паўночных карэйцаў у магчымым канфлікце з ЗША стане падземная вайна.**



Усе, хто ў свядомым узросце застаў перыяд «халоднай вайны», напэўна, памятаюць істэрыку савецкай прапаганды вакол фільму «Чырвоны ўсход». Амерыканская стужка, якая пабачыла свет у 1984 годзе, распавядае пра маладых партызан у акупаваных Саветамі Злучаных Штатах.

У мінулым годзе на экраны выйшаў рымейк культавай карціны з невялікай розніцай. Ролю інтэрвентаў у ЗША на гэты раз выконваюць паўночныя карэйцы. Армія КНДР ставіць на калені янкі з дапамогай суперзброі — апарату, які дазваляе нейтралізаваць усю электронную апаратуру праціўніка.

Напэўна, тэма гэтага апарату — самы слабы момант фільму. Больш праўдзівай выглядала б цуда-рыдлёўка. Справа ў тым, што паўночныя карэйцы дабіліся вялікіх поспехаў у стварэнні падземнай інфраструктуры, якая, на іх думку, дапаможа лёгка перамагчы Сеул і яго амерыканскіх саюзнікаў.

Каб зразумець канцэпцыю падземнай вайны, трэба ўзгадаць асаблівасці тэатру магчымых баявых дзеянняў. Ландшафт — горны рэльеф, складаная перасечаная мясцовасць з наяўнасцю значнай колькасці папярочных водных перашкод — па сутнасці, адразу абмяжоўвае атакуючым свабоду выбару і прымушае, так ці інакш, рухацца па загадзя вядомых суперніку напрамках. Такім чынам, любімай амерыканцамі манеўранай вайны, накшталт апошняй іракскай кампаніі, не будзе. Як мінімум, на пачатковым этапе вайны давядзецца прарываць падрыхтаваную абарону на некаторых участках. Акрамя таго, летам для КНДР характэрны так званы «сезон дажджоў» — у гэтых умовах, сапраўды, эфектыўнае прымяненне сучасных сродкаў разведкі і ўдараў, акрамя як па загадзя выяўленых буйных стацыянарных аб'ектах, як гэта было ў Лівіі ці Іраку, папросту нерэальнае.

Нічога не свеціць і амерыканскаму марскому дэсанту, хаця краіна абмываецца Жоўтым морам на захадзе і Японскім — на ўсходзе. Карэйская Народная Армія (КНА) яшчэ ў гады Карэйскай вайны зразумела, што такое дэсант у неабаронены тыл — дзякуючы такому дэсанту амерыканцы разблакавалі абкружаны Кім Ір Сэнам Сеул, які быў на мяжы падзення. Яшчэ ў мірны час з 1960-х гадоў многія ўчасткі ўзбярэжжа абсталявалі міннымі загародамі, уздоўж берага размешчаны значныя вайсковыя кантынгенты. Такім чынам, без размініравання акваторый пра класічны марскі дэсант можна адразу забыцца, а ліквідацыя паўнавартасных мінных загарод наватад марскіх мін 1940-х гадоў і сёння патрабуе некалькіх тыдняў.

Праўда, яшчэ застаецца авіяцыя, якая можа метадычна разбіць тылавую інфраструктуру КНДР, выклікаць хаос у кіраванні і ў выніку аслабіць перадавыя часткі. Вось тут і ўступае сілу той самы фактар нетрывіяльнага бачання паўночнымі карэйцамі вядзення будучай вайны.

Лепшай абаронай ад бомбаў з'яўляецца падземная інфраструктура КНДР, дакладныя памер і параметры якой не вядомыя. Варта ўзгадаць, што ў ваенных КНДР яшчэ з Карэйскай вайны застаўся па-сапраўднаму паспяховы вопыт пазіцыйнай абароны з высокай роляй падземных збудаванняў. Менавіта ваенныя інжынеры з КНДР дапамагалі саюзнікам у В'етнаме яшчэ ў 1954 годзе ў выкарыстанні падземных збудаванняў у барацьбе з тэхналагічна лепш падрыхтаванымі супернікамі — французамі. Спатрэбіліся кансультанты з КНДР і ў гады В'етнамскай вайны. Ёсць звесткі, што для дапамогі ў праектаванні падземных збудаванняў карэйцаў запрашала кіраўніцтва ісламскай арганізацыі «Хізбала», якая кантралюе сектар Газа. Так што ў чым у КНДР дакладна добрыя спецыялісты, дык гэта ў будаўніцтве разнастайных падземных бункераў.

Прычым выкарыстоўваюць іх не толькі, каб хаваць асабісты састаў і тэхніку на перадавой. У глыбокім тыле выкапаныя аб'екты вайсковай прамысловасці, якія падчас вайны здольныя забяспечыць узброеныя сілы ўсім неабходным.

На пачатку 2000-х гадоў у адкрытым друку сцвярджалася, што, паводле ацэнак замежных спецыялістаў, у КНДР пабудавана больш за 8 000 падземных бункераў, а таксама 527 кіламетраў падземных тунеляў. Ёсць ацэнкі, якія даюць лічбу ў 12 000 бункераў. Глыбіня многіх бункераў складае 40–70 метраў, глыбіня залягання камандных цэнтраў — 300 метраў.

То бок, вялікую частку часу сухапутныя сілы КНА проста могуць знаходзіцца на дастатковай глыбіні, наогул не з'яўляючыся ў зоне дзеяння разведкі і зброі праціўніка. Каб знішчаць іх, трэба патраціць спецыяльнымі бомбамі ў асобныя ўразлівыя элементы камунікацый гэтых самых збудаванняў.

Аднак рыдлёўкі былі патрэбныя не толькі, каб перасядзець налёт варожай авіяцыі. На думку экспертаў, існуе магчымасць манеўру КНА па падземных камунікацыях. Яшчэ Кім Ір Сэн лічыў, што «адзін тунель эфектыўней за дзесяць атамных бомбаў». З гэтай мэтай паўночнікі даўно таемна рылі праходы пад дэмілітарызаванай зонай з разлікам нечакана атакаваць Сеул.

Час ад часу такія тунэлі сапраўды знаходзілі. Першы быў знойдзены ў лістападзе 1974 года. Яго даўжыня — каля 3,5 кіламетраў, а цягнецца ён кіламетр на поўдзень ад дэмаркацыйнай лініі. Тунэль уяўляе сабой калідор шырынёй 0,9 метра і вышынёй 1,2 метра, абліцаваны жалезабетоннымі плітамі. У ім пракладзены рэйкі для ваганетак, праведзена электрычнае асвятленне. Праз тунэль за 1 гадзіну можна перамясціць падраздзяленне з 30 тысяч чалавек. Выйсце з тунэля размешчана ў 65 кіламетрах ад Сеула. Пасля падобныя тунэлі знаходзілі яшчэ тры разы. Апошні — у 1990 годзе.

Улічваючы, што вайна, з пункту гледжання стратэгаў Пхеньяна, будзе татальнай, паколькі ў ёй будзе пастаўлена пытанне аб самім існаванні кіруючага рэжыму і дзяржавы КНДР, асноўны акцэнт будзе зроблены на магчымасць нанясення суперніку як мага больш страт з мэтай прымусіць яго адмовіцца ад далейшых дзеянняў.

Вось такая, калі верыць некаторым спецыялістам, канцэпцыя пераможнай падземнай вайны, распрацаваная генштабам КНДР. Праўда, у яе ёсць відавочныя слабыя месцы. Нават за кошт цуда-тунэляў паўночныя карэйцы наўрад змогуць доўга ўтрымліваць атакуючую ініцыятыву і будуць вымушаны перайсці да абароны. І хаця КНА можа нанесці праціўніку пэўную шкоду, аднак, паводле разлікаў спецыялістаў, больш, чым 30 дзён, з улікам дэфіцыту паліва, ёй не пратрымацца. Такім чынам, для адносна «лёгкай» перамогі над КНДР трэба толькі знішчыць артылерыйскія пазіцыі, якія пагражаюць грамадзянскаму насельніцтву Паўднёвай Карэі, а таксама ракетны патэнцыял і ядзерную зброю КНДР. Пасля гэтага можна не спяшацца, бо час пачне працаваць супраць Кім Чэн Ына.

Такі варыянт вайны быў бы аптымальным для ЗША, паколькі ён мае адну важную перавагу — КНДР пакуль не здольная даставіць ядзерны фугас на тэрыторыю Злучаных Штатаў, над чым у Паўночнай Карэі актыўна працуюць. Акрамя таго, вайна ў КНДР можа прадухіліць вайну ў Іране. Урок КНДР, быццам, дапаможа Тэгерану зірнуць у твар рэальнасці. Нарэшце, Кім Чэн Ын са сваімі вар'яцкімі выхадкамі, накшталт абвяшчэння вайны Сеулу, дае Вашынгтону прымальнае апраўданне ў вачах грамадскасці. Не дарма, як жартуюць некаторыя на Захадзе, «Кім Чэн Ын — гэта Божы падарунак».

ЦІКАВА

# СНД СМЯЕЦЦА

Алег НОВІКАЎ

**1 красавіка не толькі ў Беларусі, аднак і ў суседніх краінах журналісты спрабавалі разыграць чытачоў. Прапануем невялікі агляд лепшых медыя-жартаў у розных краінах СНД.**




Відавочна, што галоўнымі ахвярамі жартаў сталі ўлады. Напрыклад, ва Украіне самай вялікай хохмай быў прызнаны жарт пра тое, што Януковіч вырашыў скарыстацца паслугамі тралейбуса. Такі матэрыял змясціла выданне «Донецкая правда». На такі крок украінскі гарант, быццам, пайшоў, каб больш не ствараць праблемаў грамадзянам сваім картэжам. Праўда, праблемы, паводле выдання, усё ж узніклі, паколькі ўслед за тралейбусам рушылі некалькі машын аховы і хуткая дапамога. Навіна выклікала шмат каментараў, у тым ліку асобаў, якія быццам бачылі паездку. Па іх словах, перад тым, як падагнаць тралейбус, спецназ выгнаў адтуль усіх людзей.

Спадабаўся ўкраінцам і жарт пра тое, што Кабмін мае намер запусціць хуткасныя самалёты «Hyundai» паміж гарадамі, якія прымаюць турнір «Еўрабаскет–2015». Прыкол у тым, што напярэдадні «Еўра–2012» урад запусціў цягнікі «Hyundai». Эксперымент закончыўся калапсам, паколькі ўкраінская прыродная стыхія хутка сапсавала механізмы заморскіх лакаматываў.

Таксама на берагах Дняпра вельмі любіць пасмяяцца з імперскіх амбіцый старэйшага брата. Таму не застаўся не заўважаным жарт ад часопісу «Корреспондент». 1 красавіка сайт паведаміў пра тое, што Саюз ювеліраў Расійскай Федэрацыі выкарыстаў абломкі метэарыту, які ўпаў у лютым у Чэлябінску, каб выкаваць для Уладзіміра Уладзіміравіча пярсцёнак «з нябеснага металу». Калі верыць аўтарам нататкі, на дадзены момант ювеліры разважаюць наконт магчымай лазернай гравіроўкі пасярэдзіне пярсцёнка на стараславянскай мове — на іх думку, надпіс «падкрэсліць сувязь расійскай дзяржаўнасці з касмічнымі працэсамі».

А вось у Расіі ніводны жарт супраць Крамля не прабіўся ў хіты. Увогуле, з жартаў у катэгорыі «палітыка» толькі адзін выклікаў вялікі рэзананс. На сайце РИА «Новости» паведамілі пра ініцыятыву ЛДПР унесці законапраект аб ужыванні часныку ў грамадскіх месцах. Як адзначаецца ў тлумачальнай запісцы, дакумент распрацаваны «ў святле нядаўна прынятага закона аб абмежаванні курэння тытуню». Законапраектам, у прыватнасці, прапануецца забараніць ужыванне часныку ў грамадскіх месцах і яго продаж цяжарным, работнікам мастацтва і культуры, а таксама дзецям да 18 гадоў. Пры гэтым дапускаецца ўжыванне часныку ў спецыяльна абсталяваных сістэмамі вентыляцыі месцах і на адкрытых тэрыторыях.

Праўда, некаторыя тэксты ўскосна б'юць па іміджу рэжыму. Напрыклад, першакрасавіцкі артыкул на сайце «Русский репортер», які тычыцца сочынскай алімпіяды, сцвярджае, што «нядаўні шчодры вясновы снег у Расіі, Украіне і Беларусі аказаўся найноўшай сакрэтнай распрацоўкай вялікага калектыву расійскіх вучоных. Ананімная крыніца з неназванага інстытута сцвярджае, што распрацоўка «цёплага снегу», які пачынае раставаць пры тэмпературы не ніжэй +10, пачалася ў абстаноўцы строгай сакрэтнасці адразу пасля таго, як было прынятае рашэнне правесці зімовыя Алімпійскія гульні 2014-га года ў субтрапічным клімаце Сочы».

Затое амаль усе топавыя першакрасавіцкія жарты ў Малдове былі выключна палітычныя. Магчыма, гэта звязана з цяперашнім палітычным крызісам у краіне. Нагадаем, што не так даўно тут разваліўся ўрад «Альянсу за еўрапейскую інтэграцыю», які ўключаў лібералаў, ліберал-дэмакратаў і дэмакратаў. Усе гадаюць, якім будзе фармат новага кабінету і хто яго ўзначаліць. Партал MOLDNEWS сцвярджае, што на пасаду прэм'ер-міністра Рэспублікі Малдова будзе вылучаны «замежны грамадзянін на аснове конкурсу». Як паведаміла MOLDNEWS крыніца, да такога рашэння прыйшлі фракцыі былога «Альянсу за еўрапейскую інтэграцыю».

Прычым, быццам, кандыдат можа быць нават з адной з манаршых дынастый Еўропы, каб надаць яго рашэнням больш вагі. А выданне AVD паведамляе, што 1 красавіка ў малдаўскай сталіцы прайшоў рытуал культу вуду з чалавечымі ахвярамі, які павінен быў адрадзіць кааліцыю трох партый.

Свае першакрасавіцкія навіны падрыхтавалі і інфармацыйныя стужкі і рэсурсы Казахстана. Да прыкладу, КАЗТАГ паведаміў, што Астану, якая раней двойчы мяняла назву, прапануюць зноў перайменаваць. У гэтую навіну паверыла шмат людзей, паколькі відавочная таўталогія: у літаральным перакладзе Астана азначае «Сталіца». У розных даведніках атрымліваецца поўны нонсенс «Сталіца Казахстана — Сталіца».

Nur.kz паведаміў, што Казахстан вылучыў пяць мільёнаў долараў для таго, каб сэр Пол Макартні выканаў гімн Казахстана. Як піша інтэрнэт-выданне, на чарговым пасяджэнні рэспубліканскага Агенцтва па дзяржаўных сімвалах было прынята нечаканае рашэнне — гімн Казахстана даверыць выканаць зорцы сусветнага маштабу, што не толькі павысіць пазнавальнасць самога гімна, але і прымусіць сусветныя СМІ казаць пра Казахстан.

Яшчэ адным жартам стала спартыўная навіна аб пераходзе футбаліста Ранальдзінья ў клуб «Кайрат» з Алма-Аты, пра гэта паведамілі на афіцыйным сайце каманды. А цэнтральнаазіяцкая служба навін CA-news.org піша пра вынаходніцтва казахстанскай віягры з дадаваннем кумысу.

Цікава, што ў Казахстане да першакрасавіцкіх жартаў падключыліся і чыноўнікі. Да прыкладу, віцэ-міністр фінансаў Руслан Дален напісаў у сваім Twitter: «Плануем увесці падатак на інтэрнэт». Навіна выклікала шок сярод сямі мільёнаў казахскіх юзераў. Трошкі пазней Дален прызнаўся, што прапанова было ўсяго толькі першакрасавіцкім жартам.

Не згубілі пачуццё гумару і кіргізы. Так, сайт Tengrinews.kz запусціў чутку пра тое, што парламент Кыргызстана прыняў закон, які абавязвае ўсіх грамадзян здаваць адзіную падатковую дэкларацыю 1 красавіка.

Нарэшце, Каўказ. Тут лепшы першакрасавіцкі жарт падчас прэс-канферэнцыі зрабіў тэатральны дзеяч і рэжысёр Мікалай Цатуран, паведаміўшы аб намеры «вылучыць сваю кандыдатуру на наступных выбарах прэзідэнта Арменіі». «Мая перадвыбарная праграма будзе заснавана на чатырох пунктах: я буду супрацоўнічаць з масонамі, каб на мяне быў здзейснена замах; напішу новыя эпас; паспрабую выратаваць камусьці жыццё на борце самалёта; абвяшчу галадоўку тэрмінам на 3 месяцы, каб вызваліць свой народ ад яшчэ аднаго дурня», — пералічыў будучы кандыдат пункты сваёй перадвыбарчай праграмы.

Як бачым, 1 красавіка ў краінах Садружнасці было вясёлым. Увогуле, складаецца такое ўражанне, што смех — адзінае, што сапраўды яшчэ аб'ядноўвае насельніцтва постсавецкіх дзяржаў. У гэтым плане не зразумела, чаму палітыкі намагаюцца інтэграваць народы былога СССР не праз сатырычны, а праз Мытны саюз.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### АРТУР МАС



Артур Мас, кіраўнік каталонскага ўраду, які складаецца выключна з сяброў партыі «Канвергенцыя і саюз» (CiU), 3 красавіка адсвяткаваў сто дзён знаходжання свайго кабінета пры ўладзе. Галоўным дасягненнем за гэты час стала распрацоўка прававой базы для выхаду Каталоніі са складу Іспаніі. Так, з падачы Маса рэгіянальны парламент прыняў гістарычнае рашэнне аб правядзенні ў наступным годзе рэферэндуму пра самавызначэнне Каталоніі. Аднак, мяркуючы па ўсім, баланс першых 100 дзён дастаткова супярэчлівы. У каталонскім парламенце Артура Маса цяпер падтрымліваюць толькі нацыяналісты з партыі «Левыя рэспубліканцы» (ERC), якія гатовыя ахвяраваць усім дзеля таго, каб Каталонія стала незалежнай. А вось іншыя палітычныя сілы, у тым ліку тыя, якія выступаюць за суверэнітэт краю, не змаглі прабачыць прэм'еру цяжкай эканамічнай сітуацыі. Ходзяць чуткі, што ў апазіцыю хутка пяройдзе і ERC. Падставай для такіх меркаванняў стала нядаўняя сенсацыйная сустрэча Маса і іспанскага прэм'ера, які лічыцца праціўнікам каталонскага сепаратызму. Прэс-сакратар сцвярджае, што на сустрэчы абмяркоўваліся выключна пытанні эканамічнага характару, аднак у прэсе хапае спекуляцый наконт таго, што Артур гатовы збавіць тэмп на шляху да незалежнасці, каб атрымаць ад цэнтру больш фінансавых датацый.

### ГУРБАНГУЛЫ БЕРДЫМУХАМЕДАЎ



Туркменскі прэзідэнт абвясціў правядзенне ў краіне з 1 па 7 красавіка Тыдня здароўя і шчасця. Як піша прэса, гэта не проста дзяжурная кампанія, а нешта большае. Усім студэнтам і чыноўнікам загадалі мець з сабою спартовую форму. Па тэлебачанні паказваюць шафёраў, дактароў, вучняў, дзяцей, будаўнікоў, гандляроў, якія займаюцца фізкультурай на вуліцы ў разгар працоўнага дня. Падключылі да Тыдня здароўя і шчасця нават аксакалаў, якіх прымусілі публічна гуляць у шахматы. Абавязковым элементам акцыі з'яўляецца прагулка працоўных калектываў па так званых «сцежках здароўя», якія цяпер ёсць практычна ў кожным горадзе. Эксперты згодныя з тым, што спорт стаў рысай экстравагантнага культу асобы Бердымухамедава. Прычым Тыдзень здароўя і шчасця можа быць толькі стартам. Раней паведамлялі пра тое, што туркменскі правадыр не на жарт захапіўся хакеем, і нават запатрабаваў стварыць у краіне хакейную лігу. У Ашгабадзе ўжо адчынены палац зімовых відаў спорту, і, калі верыць прэсе, зараз такія палацы будуюцца ў іншых гарадах.

### ЗІЛУР РАХМАН



Экс-прэзідэнт Бангладэш памёр ва ўзросце 85 гадоў напрыканцы сакавіка, што выклікала смутак не толькі на яго радзіме, аднак ва ўсіх, хто змагаецца за правы роднай мовы. Біяграфія Зілура звязаная з удзелам у барацьбе за дзяржаўны статус бенгальскай мовы. Як вядома, у 1948 годзе рашэннем ураду Пакістану, у склад якога ўваходзіў тады Бангладэш пасля краху брытанскага імперыялізму, афіцыйнай мовай была абвешчаная мова ўрду, на якой у Бангладэш амаль не гавораць. Моўныя пратэсты бенгальцаў перараслі ў паўстанне. 21 лютага 1952 года паліцыя расстраляла дэманстрацыю супраць моўнай асіміляцыі. У 1956 годзе Ісламабад даў лінгвістычную свабоду жыхарам рэгіёну, што натхніла ААН абвясціць 21 лютага Міжнародным днём роднай мовы. На гэтым гісторыя не закончылася — Рух за мову прывёў да росту самасвядомасці бенгальскага народа. Пасля нацыянальна-вызваленчай вайны Усходні Пакістан аддзяліўся і стаў самастойнай дзяржавай Бангладэш (1971). Лічыцца, што менавіта Зілур Рахман, які займаў розныя дзяржаўныя пасады, дабіўся таго, каб новая дзяржава не скацілася да банальнай дыктатуры, а будавала сваю мадэль развіцця на прынцыпах дэмакратыі. Сваё спачуванне бенгальцам з нагоды смерці Рахмана выказаў асабіста генсек ААН Пан Гі Мун.

ПАМЯЦЬ

# УРОКІ АБАРОНЫ КУРАПАТАЎ

Марат ГАРАВЫ

**На жаль, мінулае ўрочышча Курапаты аніяк не ўкладаецца ў ідэалогію сённяшняй дзяржавы. Вось чаму на пытанні аховы і папулярызацыі гісторыі народнага мемарыялу павінна адказаць грамадскасць. Уся гісторыя ўрочышча — змаганне за памяць бязвінна загінулых у краіне, дзе да гэтага часу не дзяржава служыць чалавеку, а наадварот.**



Фота аўтара




Бо інакш напрыканцы 1950-х — напачатку 1960-х гадоў праз Курапаты не пракладалі б Мінскую кальцавую аўтамабільную дарогу і не пашыралі яе ў 2000-я. Бо інакш даўно быў бы завершаны працэс рэабілітацыі бязвінных ахвяраў сталінізму. Бо інакш дзяржава належным чынам ахоўвала б нацыянальны некропаль ад вандалаў. Бо інакш дзяржаўныя СМІ не ўтойвалі б ад грамадства гісторыю Курапатаў і іншых месцаў бальшавіцкага тэрору.

Бо інакш улады даўно рэалізавалі б пастанову Савета міністраў БССР ад 18 студзеня 1989 года аб увязданенні ва ўрочышчы помніка і ўсебаковым вывучэнні прычын і наступстваў масавых палітычных рэпрэсій 1930-х — пачатку 1950-х гадоў, аб выданні кнігі памяці бязвінных ахвяраў сталінізму.

* * *

У канцы верасня 2001 года ў адказ на пашырэнне МКАД за кошт урочышча была створана грамадская ініцыятыва «За ўратаванне мемарыяла «Курапаты». Дзякуючы яе дзейнасці і гераічнай маладзевай вахце памяці, якая бесперапынна, удзень і ўночы, пры любым надвор'і, доўжылася ад 24 верасня 2001 года да 3 чэрвеня 2002 года, грамадскасць перамагла. Пашырэнне кальцавой дарогі на тэрыторыі Курапатаў было спынена. Навуковым кіраўніком помніка была прызначана адна з заснавальніц ініцыятывы Мая Кляшторная — дачка забітага НКУС беларускага паэта Тодара Кляшторнага.

Пасля 7 гадоў ігнаравання ўлады вымушаны былі прызнаць факт масавых палітычных рэпрэсій ва ўрочышчы, прыпыніць будаўніцтва бліз Курапатаў катэджнага пасёлку «Сонечны» і храма Беларускага экзархату Рускай праваслаўнай царквы. Міністэрства культуры зацвердзіла схему зонаў аховы нацыянальнага некропалю, каля яго на МКАД быў усталяваны інфармацыйна-ўказальны дарожны знак, а ў вышэйшай кропцы лясного масіву — ахоўная дошка з інфармацыяй, што помнік унесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

29 кастрычніка 2004 года ініцыятыва «За ўратаванне мемарыяла «Курапаты» арганізавала ўзвядзенне ў Курапатах так званага «Габрэйскага каменя», зробленага з фрагмента пастамента помніка Сталіну, што пасля вайны ўзвышаўся на сталічнай плошчы, а таксама распрацавала «Канцэпцыю мемарыяла ахвяраў палітычных рэпрэсій «Курапаты», падпісаную 14 грамадскімі аб'яднаннямі краіны. Галоўная ідэя канцэпцыі: мемарыял павінен засведчыць асуджэнне сталінскай палітыкі генацыду.

У аснову канцэпцыі была пакладзена канцэпцыя «народнага матэрыялу» — «Курапаты — лес крыжоў», распрацаваная Зянонам Пазьняком, якая цалкам сябе апраўдала, бо людзі ставяць у Курапатах свае знакі памяці і, спадзяемся, будуць ставіць іх надалей.

6 лістапада мінулага года дзейнасць ініцыятывы была аднаўлена ў сувязі з пратэстамі грамадскасці супраць будаўніцтва рэстаранна-забаўляльнага комплексу «Бульбаш-хол» на паўночна-заходнім ускрайку лясного масіву. Менавіта грамадства, а не ўлада паўстала супраць узвядзення каля святыні комплексу з такой абразлівай для нацыянальных пачуццяў беларусаў назвай.

У любой дэмакратычнай краіне такое немажліва. Уяўляю, як адрэагавала б дзяржава Ізраіль, калі б нехта захацеў пабудаваць каля нацыянальнага мемарыялу Халакосту і гераізму еўрапейскага габрэйства «Яд ва-Шэм» у Іерусаліме падобны забаўляльны комплекс. З якім абурэннем успрынялі б масквічы і кіяўляне з'яўленне каля Бутава і Быкоўні рэстарацый кшталту «Маскаль-хол» і «Хахол-хол».

* * *

На маю думку, улічваючы сітуацыю ў краіне, праблемы вакол урочышча будуць памнажацца. Вось чаму ініцыятыва ставіць перад сабою шэраг задач:

- Дабіцца пераносу «Бульбаш-холу» і захавання дзеючай схемы ахоўных зонаў у Курапатах, зацверджанай пастановай Міністэрства культуры ад 12 траўня 2004 года.
- Разгледзець пытанне аб інстытуцыялізацыі ініцыятывы ў зарэгістраваную грамадскую структуру кшталту Таварыства аховы Курапатаў і іншых месцаў згубы ахвяраў палітрэпрэсій 1920–1950-х гадоў.
- Здзейсніць канцэпцыю папулярызацыі гісторыі ўрочышча. Правесці навукова-практычную канферэнцыю па сітуацыі вакол Курапатаў.
- Дакладна вызначыць і адзначыць на мясцовасці зацверджаныя межы мемарыялу і яго ахоўных зон.
- Сумесна з Радай беларускай інтэлігенцыі распрацаваць грамадскі горадабудаўнічы праект дэтальнага плану забудовы тэрыторыі вакол Курапатаў аб'ектамі, якія будуць спрыяць яго папулярызацыі і захаванню.
- Сумесна з Радай беларускай інтэлігенцыі і жаночымі арганізацыямі ўсталяваць ва ўрочышчы шэраг мемарыяльных знакаў, у тым ліку вайскоўцам польскай арміі ўсіх нацыянальнасцяў, закатаваным НКУС на беларускай зямлі ў 1939–1941 гадах, жанчынам, забітым у гады бальшавіцкага тэрору, а таксама выбітным прадстаўнікам беларускай інтэлігенцыі, расстраляным у ноч з 28 на 29 кастрычніка 1937 году ў Мінску.
- Ажыццяўляць пастаянны грамадскі кантроль за ўсімі праектамі вакол Курапатаў. Прыцягваць шырокія колы грамадства да справы мемарыялізацыі ўрочышча, у апоры на грамадскасць дабівацца дыялогу з дзяржавай у гэтай справе.

Менавіта трывалая памяць пра народны мемарыял можа супрацьстаяць вяртанню масавых палітычных рэпрэсій на нашу зямлю. Але каб трывала памятаць пра Курапаты, людзі павінны адчуць боль трагедыі беларусаў у часы сталінізму. Без глыбокага асэнсавання месца Курапатаў у гісторыі Беларусі ХХ стагоддзя немажліва вызваліцца ад посттаталітарнай спадчыны, якая ледзянымі абдымкамі трымае ў мінулым значную частку грамадства.

* * *

Якія ўрокі трэба зрабіць з гісторыі абароны Курапатаў ?

Вялікая адказнасць патрабуе высокага ўзроўню арганізацыі. У іншым выпадку мы толькі нашкодзім справе абароны народнага мемарыялу. Працаваць трэба на вынік — без маніпулюшчыны і мітусні. Толькі тады ініцыятыва будзе карыстацца даверам у грамадстве.

Адказнасць СМІ ў асвятленне тэмы Курапатаў. На вялікі жаль, узровень публікацый іншым разам павярхоўны, выкліканы імкненнем хутчэй давесці да грамадства нейкую нібыта сенсацыйную навіну. Ёсць адчуванне, што тэксты не ўзгадняюцца з суразмоўцамі. Для падрыхтоўкі ж матэрыялаў па праблемах гэтага знакавага для беларусаў месца трэба працаваць сістэмна, аналізаваць нарматыўна-прававыя дакументы, публікацыі па тэме, імкнуцца ўдзельнічаць у справах, што тычацца ўрочышча і сітуацыі вакол яго.

Шанаваць (тут я згодзен з думкай Вінцука Вячоркі) не толькі мёртвых, але і жывых.

Мне думаецца, што неабходна здзейсніць прапанову актывіста ініцыятывы Вацлава Арэшкі і стварыць Кнігу гонару Курапатаў. Сярод абаронцаў урочышча — імёны яго першаадкрывальнікаў Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва, археолагаў Міколы Крывальцэвіча і Алега Іова, Уладзіміра Юхо ды іншых актывістаў КХП-БНФ, а таксама Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Радзіма Гарэцкага, Ніла Гілевіча, Артура Вольскага, Сяргея Грахоўскага, Карласа Шэрмана, Леаніда Лыча, Уладзіміра Арлова, Сяргея Законнікава, Барыса Звозскава, Алеся Бяляцкага, Станіслава Шушкевіча, Аляксея Караля і Алега Трусава, якія сваімі парадамі падтрымалі дзейнасць ініцыятывы.

Актыўны ўдзел у працы прынялі палітыкі Вінцук Вячорка, Дзмітрый Бандарэнка, Вячаслаў Сіўчык, мастакі Аляксей Марачкін і Алесь Шатэрнік, навуковы кіраўнік помніка Мая Кляшторная, каардынатар ініцыятывы Ірына Жыхар, гісторыкі Ігар Кузняцоў, Ларыса Андросік, Ірына Каштанян і Якаў Басін, праваслаўны святар Леанід Акаловіч, моладзевы лідар Павел Севярынец, удзельнікі намётавага лагеру ва ўрочышчы Васіль Парфянкоў, Ірына Веткіна, Глеб Вязоўскі, Антось Шкурынскі, Яўген Скочка, Генадзь Дранковіч, Сяржук Мацкойць, Цімох Атрошчанка і Алесь Поклад, арганізатар дапамогі лагеру Уладзімір Кішкурна, мастацтвазнаўца Валянціна Трыгубовіч, музыка Аляксей Фралоў, бард Аляксей Галіч, культуролаг Вацлаў Арэшка, археолаг Валянціна Вяргей, прэсавы сакратар ініцыятывы Сяргей Сахараў. А таксама дэмакратычныя актывісты Алесь Макаў і Алег Свірыдаў, якія 1 лістапада 2008 года затрымалі ў Курапатах вандалаў, старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч, адзін з лідараў прадпрымальніцкага руху Алесь Макаеў, сцяганосец Ніна Багінская, старшыня грамадскага аб'яднання «Хрысціянская злучнасць «Курапаты» Вацлаў Нямковіч, каардынатары штомесячных ушанаванняў у Курапатах Ганна і Віктар Шапуцькі, каардынатар праекта «Пакаянне» аргкамітэту па стварэнні партыі БХД Валерыя Чарнаморцава, журналісты Святлана Кліменценка, Віктар Хурсік, Генадзь Барбарыч, Барыс Гарэцкі, Ганна Соўсь, Галіна Абакунчык, Альгерд Невяроўскі, а таксама былыя вязні ГУЛАГу Уладзімір Святлоў, Зінаіда Тарасевіч, ЛеанідВаўчок, Уладзімір Раманоўскі і Сяргей Ханжанкоў. Гэты спіс, вядома, няпоўны і будзе падоўжаны імёнамі іншых актывістаў ініцыятывы, у тым ліку з моладзі.

Найбольш хацелася б адзначыць двух чалавек — гісторыка Ігара Кузняцова, які на працягу многіх гадоў настойліва вывучае і распавядае грамадству праўду пра сталінскія рэпрэсіі, асвятляе мінулае Курапатаў, а таксама нязломнага сцяганосцу Ніну Багінскую, якая заўсёды прыходзіць у Курапаты з нацыянальнай святыняю — бел-чырвона-белым сцягам. Мне здаецца, што грамадзянскі чын Кузняцова і Багінскай заслугоўвае высокай ацэнкі грамадскасці.

І асабістае: праблемамі абароны ўрочышча я займаюся з пачатку працы карэспандэнтам інфармацыйнай кампаніі БелаПАН (1997). Бо не магу быць абыякавым да тэмы, якая мае непасрэднае дачыненне да лёсаў маіх сваякоў.

Таксама лічу, што нельга не выкарыстаць асабісты вопыт шматгадовай краязнаўчай работы з дзецьмі. Яшчэ за савецкім часам, калі я працаваў выкладчыкам у гомельскай будаўнічай прафтэхвучэльні №56, мы з дзецьмі і маімі сябрамі стварылі краязнаўчы атрад РВС — разведчыкаў ваеннай славы. У выніку нашых пошукаў установлены болей за сотню імёнаў без вестак прапаўшых салдат, знойдзены шматлікія раней не вядомыя акопныя адзіночныя і групавыя пахаванні вайскоўцаў, праведзены перапахаванні іх парэшткаў у брацкія магілы, узноўлены асобы і лёсы загінулых. Урэшце былі арганізаваны музеі двойчы Героя Савецкага Саюза, генерала-беларуса Паўла Галавачова ў Гомелі і «Лёс салдата» ў Рагачове, створаны Рагачоўскі краязнаўчы цэнтр.

Усё гэта зрабіць было вельмі не проста. Аднак знайшлося шмат прыстойных людзей, якія сэрцам успрынялі нашу справу і дапамагалі. Не толькі сваякі і сябры невядома дзе загінулых салдат Другой сусветнай вайны, але і прадстаўнікі партыйна-савецкай наменклатуры. Сярод іх — дырэктар Гомельскага ГПТВ №56, былы матрос Балтыйскага флоту Ізот Зелянкоў, які нягледзячы на пазіцыю мясцовага партыйнага кіраўніцтва адважыўся прыняць мяне на працу, старшыня Дзяржкамітэта прафтэхадукацыі БССР Уладзімір Верхавец і сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі Аляксандр Кузьмін. Нас падтрымалі і былыя ваенныя лётчыкі 16-й Паветранай арміі, якія дапамагалі адшукваць неабходныя дакументы ў ваенных архівах.

У сваіх дачыненнях з людзьмі мы з маімі выхаванцамі зыходзілі з таго, што калі абапірацца менавіта на добрае ў чалавеку, дык і ён павернецца да цябе сваімі лепшымі якасцямі.

Курапаты — святое месца. І наш вопыт сведчыць, што ў працы па абароне ўрочышча нават сярод чыноўніцтва можна знайсці тых, хто разумее ролю народнага мемарыялу.

ПОСТАЦІ

# АД БЕЛАРУСІ ДА КАЛЫМЫ: ВАНДРОЎНІК СТЭФАН КАЗЛОЎСКІ

Лявон ЦЕЛЕШ

**Стэфан Вінцэнтавіч Казлоўскі — асоба неардынарная. Яго жыццё магло б стаць асновай сюжэту цікавага прыгодніцкага рамана. Вандроўнік і мастак, краязнаўца і этнограф. Таму я з радасцю пагадзіўся на прапанову майго сябра, краязнаўца Алеся Баркоўскага, наведацца ў Астравеччыну, дзе вандроўнік урэшце кінуў свой якар.**

Выбраліся мы сонечным сакавіцкім ранкам. Цудоўны куточак Беларусі — Астравеччына — заўжды прыцягваў маю ўвагу краявідамі наваколля, багаццем азёр і рэк, помнікамі архітэктуры ды скарбамі традыцый.

Па дарозе на хутар Рудзішкі, дзе жыве спадар Стэфан, мы наведалі ў Астраўцы рэдакцыю «Астравецкай праўды», якую ўзначальвае выдатная журналістка і пісьменніца Ніна Рыбік. За Астраўцом першай у нашым накірунку трапілася вёска Малі, дзе жыў і працаваў даследчык Кітая і Японіі, падарожнік, першы консул Расіі ў Японіі Іосіф Гашкевіч. Яго бюст усталяваны якраз перад будынкам рэдакцыі.

Далей праехалі вёску Варняны, вядомую аж з XIV стагоддзя, цэнтр якой упрыгожвае архітэктурны помнік XVIII стагоддзя — касцёл святога Юрыя. На выездзе дарогі разыходзіліся, і ў «навігатары» па мабільніку мы мусілі выклікаць Стэфана Казлоўскага, які ўрэшце і вывеў нас па заблытаных лясных дарогах на свой хутар. Гаспадар сустрэў нас з беларускай гасціннасцю, пачаставаў шыкоўным абедам з мясцовымі «лазанькамі», якіх каштаваць раней ніколі не даводзілася.

***

У невялікай сялянскай хаце спадар Стэфан жыве адзін, і нас прыемна ўразіла чысціня, утульнасць пакояў. Алесь Баркоўскі, такі ж вандроўнік па Сібіры, падарыў гаспадару хаты кнігу «С. Казлоўскі. Избранные работы по эвенам и другим народам Севера», якую ён выдаў у сваёй хатняй друкарні. У кнізе — успаміны Казлоўскага пра сваё жыццё, а таксама сабраныя ім казкі і легенды эвенаў.

Падчас абеду і пасля мы доўга распытвалі Стэфана Казлоўскага пра яго пакручастыя жыццёвыя дарогі.

Нарадзіўся спадар Стэфан у снежні 1944 года на хутары Рудзішкі, што на беларуска-літоўскім памежжы. Ягоны бацька быў сябрам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, загінуў на фронце ў 1945 годзе, а маці памерла ў 1946 годзе. Асірацелага хлопчыка выхоўвала бабуля, якую ведалі ў наваколлі як чараўніцу.

Паваенныя гады былі цяжкімі, даводзілася і галадаць. Таму, калі Стэфану споўнілася 18 гадоў, ён выехаў на заробкі — на шахту ў Растоўскую вобласць.

Яшчэ з дзяцінства Стэфана вабіў свет падарожжаў і прыгод, таму адразу пасля вяртання з войска выправіўся ў Сібір, на Расійскую Поўнач. Давялося яму працаваць на Калыме, а таксама ў складзе геалагічнага атрада шукаць золата ў адной з афрыканскіх краін.

***

Жывучы на Поўначы, Стэфан Казлоўскі цікавіўся жыццём, побытам, фальклорам мясцовых народаў — эвенаў, юкагіраў. Свае назіранні занатоўваў у дзённіках, якія вёў выключна на беларускай мове. У дадатак рабіў замалёўкі абарыгенаў у нацыянальных строях. Так знайшлі сваё развіццё здольнасці да малявання, якія выявіліся ў Стэфана яшчэ ў дзяцінстве. Шэраг карцін з сібірскімі даляглядамі, такімі, як «Ноч у гарах на Калыме», «Едуць эвены» і іншыя, упрыгожваюць сцены пакояў яго хаты.

На Калыме Стэфан працаваў спачатку ў капальні волава, потым — загадчыкам Чырвонай ярангі, некаторы час — служачым у Магаданскай думе. За 10 гадоў добра пазнаёміўся і пасябраваў з эвенамі, засвоіў іх мову і фальклор, нават навучыўся шаманіць.


Стэфан Казлоўскі


Злева направа: Алесь Баркоўскі, Стэфан Казлоўскі, Лявон Целеш

Легенды, казкі эвенаў, занатаваныя Стэфанам Казлоўскім, у яго ж мастацкім афармленні, у свой час друкаваліся ў часопісе «Вокруг света», у газетах «Магаданская правда», «Новая Колыма», у беларускім дзіцячым часопісе «Вясёлка», у польскіх газетах «Czerwony sztandar», «Ніва», «Зорка» (Беласток), у шэрагу іншых выданняў.

У сваім пісьме да беларускага паэта Івана Ласкова, які жыў і памёр у Якуцку, Стэфан пісаў, што ў характары эвенаў ён знайшоў шмат агульнага з характарам беларусаў — гэта добразычлівасць, гасціннасць, мяккасць. Мясцовыя жыхары на знак павагі да маладога даследчыка падарылі яму нацыянальны эвенскі касцюм і шаманскі бубен.

На жаль, мне не ўдалося ўгаварыць Стэфана сфатаграфавацца з тым бубнам, бо для яго гэта — сакральная рэч. А вось Алесь Баркоўскі згадзіўся папазіраваць, тым болей што, жывучы ў Якуціі, яму даводзілася сустракацца з шаманамі і слухаць іхняе камланне.


Алесь Баркоўскі дэманструе шаманскі бубен, падараваны эвенкамі сп. Казлоўскаму

***

З мноства рэчаў паўночнай калекцыі Стэфана найбольшай цікавасці варты эвенскі сярэбраны пояс з гравіраванымі бляхамі. Пояс нібыта быў зроблены якутамі ў 1867 годзе з серабра нейкага ссыльнага — удзельніка паўстання 1863 года, а потым падараваны аднаму беларускаму ссыльнаму на Калыме, ён і прывёз той пояс пасля вызвалення ў Вільню. А вось ужо Стэфану Казлоўскаму пояс падараваў адзін стары пасля яго лекцыі ў Вільні аб Калыме і эвенах. Дарэчы, прадзед Стэфана — Тамаш — удзельнік паўстання Кастуся Каліноўскага.

Аб геалагічных перыядах працы гаспадара нагадваюць шліфы халцэдону, галеніту, кварцыту і іншых горных парод на паліцах у яго сядзібе. А на самым бачным месцы — бел-чырвона-белы сцяжок побач з карцінай святога Стэфана. Ад іх, у кругавую, — кнігі, кнігі. Творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, Уладзіміра Арлова, Адама Глобуса. Асобна — зборнічак лірычных вершаў Максіма Танка з аўтографам паэта і цёплымі словамі на памяць Стэфану.

Гаспадар хаты расказаў, што бацька яго быў да вайны польскім афіцэрам, сябраваў з Максімам Танкам. І даведаўся ён пра тое ад самога літаратара. У 1966 годзе Стэфан Казлоўскі з Калымы напісаў ліст у рэдакцыю часопіса «Полымя», дзе галоўным рэдактарам у той час быў Танк. У сваім зваротным лісце той запытаўся, ці не родзічам яму прыходзіцца Вінцэнт Казлоўскі.

З таго моманту ліставанне між імі набыло пастаянны характар. Неяк у час адпачынку, прыехаўшы з Калымы ў Мінск, Казлоўскі быў запрошаны Танкам у госці да хаты. Незабыўны вечар. Пісьмы паэта, сумуе Стэфан, на вялікі жаль, не захаваліся: былі выкрадзены нейкімі зламыснікамі разам з іншымі каштоўнымі рэчамі.

Акрамя беларускай, рускай і эвенскай, спадар Казлоўскі добра валодае таксама літоўскай і польскай мовамі. З намі ён размаўляў выключна па-беларуску. Усе яго сваякі былі беларусамі і, хаця ў касцёле размаўлялі па-польску, дома пераходзілі на беларускую мову.

Нечакана ён выканаў песню і спытаўся, ці ведаем, на якой мове яна прагучала. Прызналіся — чуем упершыню. Стэфан Вінцэнтавіч запэўніў нас, што гэта славяна-літоўскі дыялект, на якім у далёкім мінулым размаўлялі жыхары старажытнага Нальшанскага княства са сталіцай у Крэве, якое ахоплівала тэрыторыі сённяшніх Астравецкага, Ашмянскага, Смаргонскага, Мядзельскага, Пастаўскага раёнаў. Магчыма, у Беларусі няма больш нікога, хто б ведаў нальшанскую мову.

***

Дзе б ні вандраваў Стэфан Вінцэнтавіч Казлоўскі, яго заўсёды цягнула на родную Астравеччыну. Вярнуўшыся, склаўшы рукі не сядзіць. Аднавіў роспіс столі паўразбуранага касцёла ў вёсцы Свіранкі. Часта сустракаецца з вучнямі школ Астравеччыны, якім расказвае пра свае падарожжы. Школе ў вёсцы Малі падарыў дзве свае карціны — партрэты Францыска Скарыны і Льва Сапегі. Шмат яго мастацкіх прац знаходзіцца ў прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, Польшчы, Літвы.

Добра ведаюць Стэфана Казлоўскага і чытачы «Астравецкай газеты», якая друкуе яго краязнаўчыя матэрыялы. Наведваюць яго госці з суседняй Літвы. Не так даўно прымаў навуковую экспедыцыю выкладчыкаў і аспірантаў Вільнюскага дзяржаўнага ўніверсітэта пад кіраўніцтвам доктара гістарычных навук археолага В. Вайткявічуса, якую азнаёміў з мясцовымі старажытнымі курганамі, з каменем-следавіком.

Сціпла сёння жыве Стэфан Казлоўскі ў сваёй сялянскай хаце на хутары Рудзішкі, не маючы ні аўтамашыны, ні іншых атрыбутаў так званага заможнага жыцця. Але ён жыве сваім багатым духоўным жыццём, сярод кніг і карцін, у атачэнні пакуль яшчэ некранутай прыроды.

▸ КІНО

# БЕЛАРУСКІЯ ЎРОКІ КВЕНЦІНА ТАРАНТЫНА

Андрэй РАСІНСКІ

**27 сакавіка Квэнцін Тарантына адсвяткаваў 50 гадоў. Рэжысёра, які ў 1994 годзе скарыў кінематограф сваім «Крымінальным чытвом», цэняць і ведаюць у Беларусі. І хаця Тарантына ніколі не быў у нашай краіне, ягоныя ўрокі карысныя для беларускіх творцаў.**




**Першы ўрок Тарантына:** каб навучыцца здымаць кіно — глядзіце яго. Глядзіце лепшае і глядзіце горшае. Вучыцеся на чужых прыкладах.

Да сваёй рэжысёрскай кар'еры юбіляр працаваў у відэапракаце — і гэта сталася для яго неацэнным досведам. Сёння доступ да фільмаў яшчэ прасцейшы.

Зважайце на гісторыі, якія чапляюць людзей. Чаму яны аддаюць перавагу? Гэта таксама досвед з «Відэа-архіву», дзе рэжысёр вучыўся і назіраў.

Гісторыі — як канструктар: яны маюць пэўныя элементы, і іх можна камбінаваць. Такая канструктарская гульня зрабіла стужкі Тарантына пазнавальнымі. У ягоных фільмах ёсць жорсткія — ва ўсіх сэнсах — элементы нізавых жанраў і адвольнае спалучэнне іх. Стыкі развінчаныя, высякаюць іронію — выклікаюць асалоду і смех.

Андрэй Кудзіненка скарыстаўся гэтым правілам, калі здымаў «Акупацыю. Містэрыі». Вынік не прымусіў сябе чакаць.

Нізавыя жанры, калі іх правільна згатаваць, здольныя на высокія справы.

Тарантына ў кампаніі з Робэртам Радрыгесам эксперыментаваў з жанрамі ў сваім праекце «Грайндхаўс». Нельга сказаць, каб эксперымент напоўніцу атрымаўся, але сама спроба стварыць не проста апавяданне, а новыя правілы для цэлага жмута апавяданняў — крок наперад. Нядаўняя «Масакра», што выйшла на «Беларусьфільме», — таксама падобны эксперымент.

**Другі ўрок** — не бойцеся пазычаць.

Юбіляра почасту абвінавачвалі ў любові да шчодрых цытатаў (калі не ў крадзяжы), дый у выкарыстанні прыёмаў і метадаў забытых карцінаў. Але багатыя пазыкі — пасілак для творчасці, а невядомыя аўтары вартыя нахабнага новага прачытання.

Нарэшце, Шэкспір таксама актыўна апрацоўваў чужыя гістарычныя хронікі, калі пісаў свае бессмяротныя трагедыі. Сярод беларускіх аўтараў пакуль толькі Караткевіч скарыстаўся гэтым прыёмам.

**Трэці ўрок** — не бойцеся быць сабою.

Тарантына — стоадсоткавы амерыканец, і ягоныя героі размаўляюць пра гамбургеры, танчаць з копіямі Мэрылін Манро і чытаюць коміксы. У побыце — свая каштоўнасць, свае адсылкі і свая іронія нязддзейсненага высокага стылю.

Страх да гарадскога побыту не дазваляе беларускім культурнікам пачувацца вольнымі на сваёй прасторы, дзе можна спрачацца пра дранікі, а не пра Маскву.

**Чацвёрты ўрок** — мова мае значэнне.

Фірмовыя тарантынаўскія дыялогі спрычыніліся да моўнага скандалу, калі «Крымінальнае чытво» агучылі па-беларуску. Абураліся выкшталцонай лаянкай, Пятра Садоўскага дакаралі за сакавіты нецнатлівы пераклад. Але мова няпоўная — і без высокіх спеваў, і без мянушак з прыгаворкамі.

Культура няпоўная, калі не засвоеныя пэўныя ўрокі.

Юбіляр Тарантына дае майстар-клас.




▸ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# СЯРГЕЙ ГВАЗДЗЁЎ І ЯГО ПАРТРЭТЫ МАСТАКОЎ

**Мастацтвазнавец Сяргей Гваздзёў спяшаецца пазнаёміць усіх, хто цікавіцца выяўленчым мастацтвам беларускага краю, са сваёй новай кнігай «Крэскі да партрэтаў мастакоў з Заходняй Беларусі» з калекцыі «Бібліятэчка «Новага Часу».**




«Гэта кніга — адна з першых спробаў вярнуць у сённяшні дзень яскравыя постаці, якія істотна дапаўняюць, а ў нечым і змяняюць наша ўяўленне пра беларускае выяўленчае мастацтва XX стагоддзя», — прызнаецца аўтар.

Пад вокладкай кнігі Сяргея Гваздзёва сабраныя такія мастакі, як Мар'ян Богуш-Шышка, жывапісец і графік, больш вядомы ў Расіі, чым на радзіме Раман Семашкевіч, беларускі жывапісец у ЗША ПётрМіранові, мастак-«калабарант», які прысвяціў жыццё служэнню Богу, Анатоль Рубановіч і іншыя.

Прэзентацыя адбудзецца 17 красавіка а 19-ай гадзіне ў Галерэі «Ў» (праспект Незалежнасці, 37А). Уваход вольны!

Удзельнікаў мерапрыемства пацешыць перформансамі гурт «Fratrez», які ўдала сумяшчае ў сваёй творчасці музыку і тэатр.

Разам з аўтарам кнігі Сяргеем Гваздзёвым у імпрэзе возьмуць удзел знакамітыя культурныя дзеячы: мастакі Мікола Купава і Артур Клінаў (галоўны рэдактар часопіса «pARTisan»), Зміцер Вішнёў (удзельнік шматлікіх міжнародных літаратурных фестываляў), мастацтвазнаўцы Вольга Архіпава, Мікалай Паграноўскі, Яўген Шунейка, Ларыса Фінкельштэйн; дырэктарка архіву-музею літаратуры і мастацтва, складальніца беларускіх календароў Ганна Запартыка; публіцыст Анатоль Мяльгуй і літаратурны рэдактар Аляўціна Вячорка.

Прэзентацыя ладзіцца пры падтрымцы грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!», выдавецтва «Галіяфы» і газеты «Новы Час».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 395

Падпісана да друку 05.04.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча